12 мая 2017 | № 18 (532)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 17018

**Непакорлівы сабекошт квадратнага метра**
стар. 5

**4 ПЛАН ДЗЕЯННЯ ДЛЯ ТЫХ, ХТО ПРЫЙДЗЕ НА ЗМЕНУ ЎЛАДЗЕ**



Праграма эканамічных і палітычных рэформаў Беларусі «Вольная Беларусь», распрацаваная камандай Зянона Пазьняка, была прэзентаваная ў Вільні 8 мая

**6–7 ВЫБАР АЛЕНЫ АНІСІМ**

Пра сваё жыцця і наканаваны выбар Алена Анісім распавяла чытачам «Новага Часу»



**8 НА ПАРОЗЕ НОВАЙ АФГАНСКАЙ**

«Талібан» абвясціў маштабны выступ супраць афіцыйнага ўраду ў Кабуле. Гледзячы па ўсім, падзеі вядуць да чарговай афганскай вайны

**10 «ВОГНЕННАЯ ВЁСКА» АЛЕСЯ АДАМОВІЧА**

У Беларусі існуюць толькі дзве вуліцы імя Адамовіча. Адна — у пасёлку Калодзішчы Мінскага раёна, другая — у Глушы

# Самазабойчы рэферэндум 1995-га

## Тактычна кіраўнік Беларусі перамог, стратэгічна — прайграў



Алесь КІРКЕВІЧ

Першы, але не апошні за гады праўлення сённяшняга кіраўніка Беларусі, рэферэндум адбыўся 14 мая 1995 года. Першы і... лёсавызначальны.

Як мы памятаем, падчас яго на галасаванне былі вынесеныя чатыры пытанні: аб замене нацыянальнай сімволікі, аб наданні рускай мове роўнага статусу з беларускай, аб інтэграцыі з Расіяй ды аб наданні прэзідэнту права роспуску парламента.

Ці былі вынікі галасавання аб'ектыўнымі? Спрэчкі ідуць дагэтуль. Пра працэнты, парушэнні, само права на рэферэндум з юрыдычнага боку. Пытанне ў іншым: ці магчыма наогул выносіць на галасаванне (ставіць пад сумнеў) прынцыпы, якія дазваляюць народу звацца народам і ў далейшым самастойна вызначаць свой лёс?

Адсоўванне нацыянальнай сімволікі ды мовы з дзяржаўнага ўзроўню стала для Беларусі самазабойчымі крокамі. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг на доўгія гады апынуліся па-за законам — за іх выкарыстанне тысячы людзей трапілі пад рэпрэсіі, гістарычныя сімвалы сталі фактычна забароненымі. Родная мова апынулася дэ-юрэ «роўнай» з расійскай, але дэ-факта — выкінутай з ужытку, нацыя анямела.

Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі. Маеш мову і гісторыю, пазначаную сімваламі, — значыць, маеш права на незалежную дзяржаву. Карыстаешся чужой мовай і бутафорыяй замест гісторыі — чакай гасцей. Прыклад Украіны, дзе пад удар Расіі трапілі акурат русіфікаваныя дэнацыяналізаваныя рэгіёны, — выдатнае таму сведчанне.

Пасля падзеяў у Крыме і ў Данбасе падалося, што дзяржава пачала разумець: перагнулі з чысткай усяго беларускага, трэба назад адкручваць. Але як адкруціш, калі дзеці з рускамоўных школаў не тое што размаўляюць — разумеюць па-беларуску з цяжкасцю? Як адкруціш, калі для тысяч сілавікоў, выгадаваных пры Лукашэнку, нацыянальныя сімвалы сталі аб'ектам нянавісці на падсвядомым узроўні?

Па вялікім рахунку, рэферэндум не проста ўзаконіў новыя герб са сцягам ды рускую мову, ён даў дабро на вынішчэнне ўсяго нацыянальнага пад корань. Нацыяналізм стае галоўным ворагам кіраўніка і ўсёй ягонай вертыкалі. Але і тут захаваная міна запаволенага дзеяння: дэмакратаў перамагчы можна, асабліва калі дзейнічае сацыяльная дамова — улада ўзамен на стабільнасць. Якія там справядлівыя выбары, калі ў лядоўні поўна? Ці багата хто захоча сядзець у засценках за абстрактныя «правы чалавека» ці абяцанні рэформаў?

З нацыяналістамі — складаней. Якія б добрыя дарогі ні будаваліся, як бы ні раслі заробкі ў «хлебныя» гады, ім усё адно няймецца: «Беларусь мае быць беларускай!» І нічога тут не паробіш. Зміцер Дашкевіч некалі казаў, што прыйшоў у пратэстны рух менавіта праз змену нацыянальнай сімволікі ў 1995-м. Маладога яшчэ будучага палітыка, палітвязня і «вулічнага байца» абурыла падмена натуральных рэчаў, якія ёсць у кожнай дзяржаве, на бутафорыю. А калі ў чалавека забіраюць нешта натуральнае, як паветра, — выбару няма: трэба ісці да апошняй мяжы...




Міраслаў Лазоўскі, адзін з ключавых фігурантаў «Справы патрыётаў», неаднойчы казаў: «Мне няма розніцы да прозвішча прэзідэнта, галоўнае — незалежнасць». Упэўнены, што такой пазіцыі трымаецца абсалютная большасць хлопцаў, якім зараз шыюць 287-ы артыкул. Натуральная рэч — незалежнасць. Тыя, хто без грошай і спадзеваў на высокія пасады будзе яе бараніць, — залаты фонд нацыі: не здрадзяць, не разбягуцца, не здадуць. Але ж не: «нацыяналіст» для ўлады па-ранейшаму вораг. А як інакш? Прагаласаваў жа народ яшчэ ў 1995-м...

Вядома, той рэферэндум быў зроблены як пад замову Расіі, так і пад замову сацыяльную: Лукашэнка адчуў народ з ягонай настальгіяй па СССР і бязмежнай любоўю да «старэйшага брата». Адчуў — і сыграў. Але ведаць псіхалогію «простага чалавека» — гэта яшчэ далёка не ўсё ў палітыцы. Трэба трохі далей глядзець, на крок наперад.

І тут Лукашэнка прайграў — выкінуў адразу ўсе карты. Можна ж было і гайкі зацiскаць, і з Расіяй фліртаваць, але пры гэтым умацоўваць нацыянальны складнік, нават з прагматычных пазіцыяў, каб больш упэўнена пачуваць сябе ў гульні. Урэшце, ёсць прыклад Казахстану, дзе кіраўнік і Пуціну руку ціснe, і мову з кірыліцы на лацінку пераводзіць, нібы кажучы: «Мы — іншыя. Тут не «русский мир».

Тактычна Лукашэнка ў 1995-м перамог, стратэгічна — прайграў. Але ці ён адзін? Прайграла ўся Беларусь разам з мёртвымі, жывымі і ненароджанымі — уся нацыя ў перспектыве прасторы і часу. Вяртацца на нацыянальныя пазіцыі для Лукашэнкі зараз — нібы здрадзіць самому сабе, пакінуць усё, як ёсць, — згубіць краіну. Цяжкі выбар, дылема. Але ці бывае па-іншаму ў складаныя часы?

# «Карусель пікетаў» у падтрымку патрыётаў

**Актывісты Руху «За Свабоду» запусцілі «карусель пікетаў» на знак салідарнасці з арыштаванымі па справе патрыётаў. Далучыцца да чыннай справы можа любы ахвочы.**

Ужо пададзеныя адпаведныя заяўкі ў Мінгарвыканкам на правядзення мерапрыемстваў 20 і 22 мая. Ініцыятары адзначаюць у заяўцы, што пікеты маркуецца праводзіць на знак «салідарнасці з затрыманымі ў другой палове сакавіка ў межах крымінальнай справы «Аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» (на сённяшні момант 18 чалавек, якія знаходзяцца ў СІЗА №1 на вул. Валадарскага ці СІЗА КДБ)».

Мэтай пікетаў з'яўляецца прыцягненне ўвагі грамадскасці да справы. Ініцыятары акцыі прапанавалі тры магчымых месцаў правядзення пікетаў: ля КДБ, ля СІЗА № 1, на плошчы Бангалор ці любое іншае месца Мінска.

На гэты момант заяўкі на пікеты плануюць падаваць сябры Руху «За Свабоду», але да кампаніі можа далучыцца кожны ахвотны: бланкі можна атрымаць на офісе арганізацыі (пр-т Незалежнасці 80-73, Мінск) альбо спампаваць на сайце salidarnasc.org і раздрукаваць ды запоўніць самастойна. Афармленая заяўка перадаецца ў Мінгарвыканкам. Для эфектыўнай каардынацыі трэба любым зручным метадам (напрыклад, на мэйл www.pyx.by@gmail.com) паведаміць абраную для пікета дату.

**Паводле salidarnasc.org**

# Толькі адна беларускамоўная школа

**На ўсёй Брэстчыне ў бягучым навучальным годзе, згодна са статыстыкай абласнога ўпраўлення адукацыі, на роднай мове ў сярэдніх школах навучаецца меней за 20 працэнтаў вучняў.**

На ўсім Брэсцкім Палессі засталася адзіная гарадская сярэдняя школа — у райцэнтры Янава (Іванава). Янаўская школа №4 з музычным ухілам яшчэ з пачатку 1990-х гадоў супраціўляецца спробам пераводу навучання на рускую мову.

Беларускамоўную школу №4 у Янаве стварыў Рыгор Сыраватка.

«Я быў прызначаны дырэктарам сюды ў 1991 годзе. Палова будынка ўжо была, а астатняе дабудоўвалася пры мне. У 2002 годзе мяне знялі з пасады дырэктара, але я працягваў працаваць у школе як настаўнік», — распавядае Сыраватка.

Калі ствралася школа, кажа Рыгор Рыгоравіч, нават не разглядалася альтэрнатыва мове навучання. Садзейнічаў захаванню беларускасці ў школе і калектыў: настаўнікі былі не толькі калегамі ў працы, але таксама і аднадумцамі.

Былы дырэктар звяртае ўвагу, што вучням, якія закончылі беларускамоўную школу, паступаць далей у ВНУ не складаней, чым выпускнікам рускамоўных школаў. А гэта быў адзін з галоўных аргументаў некаторых бацькоў, якія не раз падымалі пытанне аб пераводзе адукацыі ў школе на рускую мову.

«На вялікі жаль, многія бацькі, асабліва тыя, якія самі не вывучалі беларускай мовы (а мы памятаем, як у 60–70-я гады мінулага стагоддзя дазвалялася не наведваць заняткі па роднай мове), і цяпер цураюцца сваёй мовы. Але большасць бацькоў усё ж нармальныя і адэкватныя людзі».

Паводле Рыгора Рыгоравіча, сітуацыя ў Янаве паступова змяняецца. Цяпер у школе новае кіраўніцтва, новыя асобы, шмат маладых настаўнікаў, але надалей навучанне тут будзе выключна па-беларуску.

Бацькі дзяцей прызвычаіліся да беларускай мовы і ахвотна запісваюцца сюды. Пра гэта кажа Людміла Мікалаеўна Яфімчук, намесніца дырэктара ў вучэбнай працы: «Налета мы плануем набраць больш за 80 першакласнікаў. З 2013 года ў нас створаныя профільныя класы. Усе без выключэння прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Вучні на цэнтральным тэставанні набіраюць па 98 балаў. А гэта сведчанне таго, што ўзровень досыць высокі».

Цяпер у Янаўскай школе №4 навучаецца 683 школьнікі. «Мы актыўна развіваем музычны кірунак, тэатр, хор. Вучыцца ў нас стала нават прэстыжна. Адназначна, мы і далей будзем выкладаць толькі па-беларуску. Гэта наша родная мова. Мы павінны кіравацца сваёй мовай, валодаць, размаўляць і вучыцца на ёй», — распавяла Людміла Яфімчук.

Жыхарка Янава Ірына кажа, што не вагалася, у якую школу аддаваць сваіх дзяцей: «Я цудоўна ведаю многіх настаўнікаў, разумею, што мае дзеці атрымаюць добрыя веды. І атрымаюць і неабходнае выхаванне, якое ў школе вядзецца па-беларуску».

Настаўнікі Янаўскай школы адзначаюць, што ў іх установе навучаецца найбольшая колькасць вучняў сярод іншых адукацыйных устаноў раёну, якія ўваходзяць у спецыяльны фонд сацыяльнай падтрымкі адораных навучэнцаў і студэнтаў.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# Заробак у 500 долараў?

Марыя ВЕРАС



**Для даглядчыцы цялят з вёскі Балгавічы Капыльскага раёна Наталлі Прымшыц мара — зарплата ў 400 рублёў.**

Наталлі 54 гады. Яна працуе на дарошчванні цёлак да сталага ўзросту і першага асемянення на ферме ў вёсцы Балгавічы Капыльскага раёна. За сваю нялёгкую працу са студзеня гэтага года атрымлівае ў сярэднім 230 рублёў. Вось што сама Наталля гаворыць пра сваю работу:

— Будынак цялятніка яшчэ не стары, падача кармоў ажыццяўляецца механізаваным спосабам — у адрозненне ад Яўсеевіцкай фермы, што знаходзіцца ў трох кіламетрах. Зараз у мяне на даглядзе 121 цялё, але бывае і па 160–170 галоў. Раней атрымлівала па 4–5 мільёнаў за працу. Але пасля прыходу новага дырэктара ў снежні мінулага года зрэзалі расцэнкі. Мой цялятнік лічыцца механізаваным, але ручной працы тут таксама хапае. Напрыклад, зімой падмёрзлыя цюкі даводзілася раскідаць уручную, а падсцёл разбіваць ломам.

Падсцілаць цёлак 3 разы на тыдзень дапамагае памочнік з брыгады паляводаў. Але калі той зламаў нагу і два месяцы знаходзіўся на бальнічным, яго ніхто не замяніў. Бывае, што на ферме прыходзіцца быць і цэлы дзень. Выходных Наталля не мае.

Жанчыне хацелася б зарабляць па-ранейшаму, але на новага дырэктара яна не скардзіцца. Пахваліла, што наладзіў асвятленне на цялятніку, дапамог адрамантаваць дзверы.

Скардзіцца Наталля баіцца, бо калі выганяць з гэтай працы, дык зможа працаваць толькі паляводам у брыгадзе. Там заробкі яшчэ ніжэйшыя.

Дарэчы, пасля размовы з журналісткай загадчыца фермы, па словах Наталлі, пагражала ёй пераводам у палявую брыгаду. Жанчына перажывае, што тады не зможа выплачваць крэдыты, якія ўзяла ў двух банках на рамонт вясковай хаты.

З пачатку года заробак Наталлі і так зменшыўся амаль напалову. Хаця яна працуе, як і раней, без выходных, колькасць цялушак прыкладна такая ж, цялушкі ў вазе прыбываюць штомесяц не горш, чым на іншых фермах. Штомесячныя разліковыя лісткі па заробку, якія маглі б утрымліваць больш канкрэтную інфармацыю, жанчына не атрымлівае, як і іншыя працаўнікі сельгаспрадпрыемства.

У бухгалтэрыі прадпрыемства патлумачыць гэта адмовіліся. Галоўны эканаміст параіў звярнуцца да дырэктара філіяла «Грозава» ўнітарнага прадпрыемства "Прыёртрансагра». Дырэктар, Аляксандр Дарошчанка, па тэлефоне паведаміў, што «грошы трэба зарабляць».

— Для таго, каб добрыя грошы зарабляць, трэба добра працаваць. На Балгавіцкай ферме дарошчванне цялят адбываецца механізаваным спосабам. Калі жанчына хоча атрымліваць большыя грошы — хай ідзе працаваць на Яўсеевіцкую ферму, там праца выконваецца ўручную і даглядчыцы атрымліваюць больш, — параіў дырэктар.

А загадчыца фермы Алена Лявонава паведаміла, што зарплата ў 230 рублёў — гэта нармальная зарплата для Наталлі, і ёй няма на што скардзіцца.

За каментарам я звярнулася да былога галоўнага эканаміста сельскагаспадарчага ААТ «Праснакі» Капыльскага раёна Рамана Сімановіча.

— Са студзеня 2017 года мінімальны заробак у краіне складаў 265 рублёў — ужо нават па гэтай пазіцыі відавочна, што заробак цялятніцы заніжаны, — распавёў Смановіч. — Да таго ж яна павінна атрымліваць дадатковыя выплаты за працу ў выходныя дні, за шкоднасць. Пры адсутнасці разліковага ліста незразумела, ці выпісаліся нарады за дадатковыя работы, якія не ўваходзяць у расцэнкі. Дарэчы, па артыкулу 80 Працоўнага Кодэксу разліковыя лісты павінны выдавацца працанаймальнікамі ў абавязковым парадку. Гэта павінна зацікавіць інспекцыю па працы.

Раман Сімановіч лічыць, што бяспраўнасць сельскіх працаўнікоў наўпрост залежыць ад адсутнасці прававых ведаў.

— Я б парэкамендаваў Наталлі звярнуцца з пісьмовым зваротам да дырэктара з просьбай азнаёміць пад распіску з працоўнымі абавязкамі і канкрэтнымі расцэнкамі за розныя віды працы, з нормамі нагрузкі, з графікам працы, — раіць ён.

Ці скарыстае даглядчыца Балгавіцкай фермы гэтыя парады — невядома, але праз некалькі дзён пасля нашай сустрэчы на дзвярах фермы з'явіўся распарадак яе працы, падпісаны загадчыцай і зацверджаны дырэктарам філіяла «Грозава».

А яшчэ праз 10 дзён на яе картку быў пералічаны заробак, які склаў 313 рублёў.

# Геніюш рэабілітацыі не падлягае

**«Моладзь БНФ» атрымала адказ ад Генпракуратуры РБ на пісьмовае патрабаванне рэабілітаваць Ларысу Геніюш у рамках кампаніі #Геніюш2016.**

#Геніюш2016 — гэта кампанія «Моладзі БНФ» па рэабілітацыі беларускай паэткі, грамадскай дзяячкі Ларысы Геніюш.

5 ліпеня 2016 пачаўся першы этап кампаніі, дзе актывісты «Моладзі БНФ» збіралі подпісы за рэабілітацыю Ларысы Геніюш. За першы этап у падтрымку праграмы было сабрана больш за 1200 подпісаў.

На другім этапе кампаніі актывісты працягвалі збіраць подпісы (як офлайн, так і анлайн), а таксама патрабавалі надаць адной з вуліц горада Зэльва імя паэткі, усталяваць помнік Ларысе Геніюш і ўключыць яе творы ў школьную праграму. Паралельна праходзіў шэраг мерапрыемстваў у гонар паэткі.

18 красавіка, з вялікай затрымкай, прыйшоў адказ ад Генпракуратуры РБ наконт рэабілітацыі Ларысы Геніюш. Цытата: «Геніюш Л.А. прызнана не падлягаючай рэабілітацыі».

«Мы лічым дадзены адказ Генпракуратуры выключна палітычным і працягам каляасавецкай ідэалогіі. Мы ўпэўнены, што рэабілітацыя нашай выбітнай літаратаркі Ларысы Геніюш з'яўляецца адным з прынцыповых пытанняў рэабілітацыі рэпрэсаваных камуністамі літаратараў і дзеячаў Беларусі, якія былі супраць антыбеларускай бальшавіцкай ідэалогіі і змагаліся за праўду. Мы не здаемся і працягваем кампанію #Геніюш2016. Наступныя нашы крокі: працяг мерапрыемстваў у гонар Ларысы Геніюш і заснаванне літаратурнай прэміі яе імя», — патлумачылі прадстаўнікі «Моладзі БНФ».

Найбліжэйшым мерапрыемствам будзе прагляд кінастужкі «Няскораная», які адбудзецца ў сядзібе БНФ (вул. Чарнышэўскага, 3) 13 мая а 19.00.

Літаратурная прэмія імя Ларысы Геніюш будзе ўручацца маладым літаратарам, якія пішуць па-беларуску і для Беларусі. Падрабязная інфармацыя будзе абвешчана пазней.

**Паводле прэс-службы «Моладзі БНФ»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Моц і квітненне на паперы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як кажуць, ёсць хлусня, ёсць вялікая хлусня, а ёсць статыстыка. Найбольш крэатыўна падышоў да гэтага выслоўя Нацыянальны банк РБ.**


Фота www.careerist.ru

Паводле яго дадзеных, залатавалютныя рэзервы краіны паводле стандартаў Міжнароднага валютнага фонду за красавік павялічыліся на 1,8% і дасягнулі на 1 мая 5 108,7 мільёна долараў (у эквіваленце).

Рэзервы ў нацыянальным вызначэнні павялічыліся на 263,4 мільёна (4,9%), да 5 672,5 мільёна долараў.

Але якім чынам такое павелічэнне было дасягнута? Рост рэзерваў у вызначэнні МВФ быў выкліканы ўсяго толькі павелічэннем кошту манетарнага золата. У той жа час, кошт золата на рахунках у замежных банках, якое ўваходзіць у склад рэзерваў у нацыянальным вызначэнні, у красавіку знізіўся ў параўнанні з сакавіком на 98,1 мільёна долараў

То бок, Нацбанк перавёў золата з рахункаў у замежных банках (з нацыянальных рэзерваў) у манетарную форму, гэта значыць, у склад рэзерваў у вызначэнні МВФ, што і прывяло да росту апошніх. Калі б ён не ажыццявіў гэтую аперацыю, рэзервы ў вызначэнні МВФ у красавіку маглі б знізіцца.

Такім чынам, нашы ЗВР насамрэч не падняліся. Яны засталіся тымі ж, як і былі. Сёння манетарнае золата даражэе, заўтра таннее — і ўсё гэта адбіваецца на нашых актывах. Дык ці варта было рапартаваць пра дасягненні?

У Нацбанку пра гэтую аперацыю не паведамілі. Там адзначылі, што росту рэзерваў спрыяла павелічэнне цэн на золата на сусветным рынку, паступленне трэцяга траншу фінансавага крэдыту Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця ў памеры 300 мільёнаў долараў, купля Нацбанкам замежнай валюты на Беларускай валютна-фондавай біржы, а таксама прыцягненне сродкаў ад продажу Мінфінам і Нацбанкам валютных аблігацый і паступлення ад збірання экспартных пошлін на нафту і нафтапрадукты.

Падаецца, пра беларускую статыстыку трэба забыцца. І ўважліва сачыць толькі за тэндэнцыямі. А тэндэнцыі не вельмі радуюць.

Краіна адзначыла чарговы Дзень Перамогі. Гэта, падаецца, было ці не самае сціплае свята за апошнія гады. У Мінску не было параду вайсковай тэхнікі — перавагу аддалі высокім тэхналогіям. На плошчы Перамогі прайшоў канцэрт і тэматычнае 3D-шоў, якое можна было ўбачыць на двух дамах, размешчаных за манументам Перамогі. Цікава, што жыхарам гэтых дамоў у час правядзення мерапрыемстваў забаранілі ўключаць святло, каб не папсаваць карцінку. Традыцыйна прайшоў салют у Мінску і абласных цэнтрах.

Уедлівыя журналісты ўжо раскалупалі, колькі сродкаў было патрачана на не самае маштабнае святкаванне. Інфармацыю пра гэта знайшлі на сайце дзяржаўных закупак. Там паведамляецца, што абвяшчаліся таргі на арганізацыю і правядзенне культурных мерапрыемстваў, прысвечаных 9 мая. Паводле сайту, на гэта была выдаткаваная сума ў памеры 406 тысяч 457 рублёў — каля 216 тысяч долараў.

Лічба сапраўды невялікая. Аднак хацелася б ведаць, ці ўлічвае яна "ўскосныя" выдаткі. Напрыклад, 9 мая чальцы БРСМ праводзілі ў розных гарадах Беларусі «флэш-акцыі» ў межах праекту «Кветкі вялікай перамогі» — раздавалі чырвона-зялёныя стужкі з яблыневымі кветкамі. У Мінску яны актыўнічалі на плошчы Перамогі, у Лошыцкім парку, у парку Перамогі, а таксама на «Лініі Сталіна». Стужкі павінны былі раздаваць удзельнікам імпрэзаў у Брэсцкай крэпасці, Віцебску, Воршы, Полацку, Гомелі, Гродна, Лідзе, Магілёве, Кобрыне, Наваполацку, Калінкавічах, Бабруйску, Асіповічах, Салігорску, Слуцку, Лагойску.

Выраб гэтых стужак, як і праца чальцоў БРСМ, таксама нечага каштуе. Хай сабе «рукі-ногі» бясплатныя, але ж стужкі павінны былі як мінімум развезці і працу арганізаваць. Ці закладалася гэта ў бюджэт святкаванняў?

Арыгінальным чынам павіншавалі ветэранаў супрацоўнікі МТЗ, якія зноў правялі «аўтамабільны флэшмоб» — гэтым разам у гонар Дня Перамогі. На плошчы каля цэнтральнай прахадной Мінскага трактарнага завода 160 аўтамабіляў і трактароў склалі гіганцкі надпіс «ПЕРАМОГА». У гэты ж час каля двухсот работнікаў МТЗ сталі ў надпіс «Са святам». Акцыя была задумана як віншаванне ветэранам Вялікай Айчыннай вайны.

Пабудова на плошчы заняла каля гадзіны. Роўна апоўначы кіроўцы ўключылі блізкае святло фар і аварыйныя агні, а ўдзельнікі-пешаходы накіравалі ўверх ліхтарыкі.

І гэта таксама грошы. Хаця б на паліва. З іншага боку, калі трактары не прадаюцца, з імі трэба нешта рабіць? А тыя 200 чалавек, якія бадзяліся ля прадпрыемства з ліхтарыкамі? Можа, менавіта іх скіраваць на засваенне новых рынкаў? Ім, па ўсім бачна, рабіць няма чаго. Цікава, канешне, павіншаваць ветэранаў, скіраваўшы ў неба прамень ліхтарыка, асабліва апоўначы, калі ўсе ветэраны спяць.

Займаемся мы невядома чым, а потым скардзімся на дрэнны стан нашай гаспадаркі. Прычым, гэты стан адбіваецца якраз на ветэранах. У Брэсце, напрыклад, яны атрымалі «святочны камплект», у які ўваходзілі: зубная паста (1 цюбік), кавалак мыла (1 штука), пачак манных крупаў (1 штука), кансерваваная скумбрыя (1 бляшанка) і печыва (1 пачак). У суправаджальным лісце ў той жа час гаворыцца: «Дзякуючы Вам, франтавікам і працаўнікам тылу, пасляваенным пакаленням, наша краіна змагла стаць моцнай, магутнай, паважанай ва ўсім свеце»

З каго здзекуюцца ініцыятары такіх падарункаў — з ветэранаў ці з «моцнай, магутнай і паважанай краіны», якая можа прапанаваць ветэрану кавалак мыла? Пры тым, што на 9 мільёнаў насельніцтва ў нас засталося толькі 10746 ветэранаў.

І, пакуль мы святкавалі, былы дарадца кіраўніка дзяржавы па эканоміцы, а зараз пасол у Кітаі Кірыл Руды паведаміў, што Паднябесная гатовая пераносіць вытворчасць у Беларусь. Чаму? Таму што, паводле Рудога, у Беларусі таннейшая працоўная сіла, то бок ніжэйшыя за кітайскія заробкі!

Руды сказаў, што ў апошні час заработная плата ў КНР павялічваецца імклівымі тэмпамі. За 2016 год сярэдні заробак кітайцаў дасягнуў 700 долараў, а ў некаторых правінцыях перавысіў 1000 долараў. Таму кампаніі Кітая сталі выносіць вытворчасці ў краіны з больш нізкім узроўнем зарплаты, піша БелТА.

У Кітаі працоўная сіла заўсёды была самая танная. Але мы нават кітайцаў пераплюнулі! Гэта ўсё, што трэба ведаць наконт нашай эканамічнай палітыкі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Уладзімір Някляеў

**Паэт, экс-кандыдат у прэзідэнты Дзень Перамогі святкаваў на Акрэсціна.**

Палітык быў схоплены супрацоўнікамі АМАП 6 мая прыкладна ў 10.30 каля свайго дома ў Мінску і дастаўлены Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Жонцы Някляева паведамілі, што па рашэнні суду ён павінен адбыць пяцісуткавы адміністрацыйны арышт за ўдзел у несанкцыянаваным «Маршы недармаедаў» 17 лютага ў Мінску.

Як паведаміла БелаПАН жонка палітыка Вольга Някляева, ёй патэлефанаваў мужчына, які распавёў, што адбываў пакаранне разам з Някляевым і выйшаў на волю. Паводле яго слоў, у Някляева быў падвышаны артэрыяльны ціск, раніцай яму давалі таблетку для паніжэння ціску, але стан здароўя палітыка ўсё роўна заставаўся нездавальняючым. На просьбы выклікаць хуткую дапамогу Някляеву адмаўлялі.

Раней паэт каментаваў свае прысуды: «Вось вы прысудзілі мне арышт за ўдзел у мітынгу супраць дэкрэту №3. Але ж напярэдадні вы самі даверліва мне казалі, што таксама супраць гэтага дэкрэту. Дык чаму супраць мы разам, а сядзець мне аднаму?»



## Аляксандр Сахарук

**Брэсцкі ветэран вайны ў Афганістане быў затрыманы падчас афіцыйнага шэсця ў гонар Дня Перамогі.**

Аляксандр Сахарук апрануў сваю вайсковую форму, пачапіў атрыманы ў Афганістане баявы медаль «За адвагу», бел-чырвона-белую стужку і пайшоў на мерапрыемства на скрыжаванні вуліц Леніна і Машэрава. Калі калона рушыла ў бок крэпасці, ён узняў бел-чырвона-белы сцяг і прайшоў з проста за «Неўміручым палком».

Да яго падышлі асобы ў цывільным і загадалі прыбраць сцяг. Гэта зрабіць афганец адмовіўся, патлумачыўшы, што гэта яго нацыянальная годнасць. У выніку яго затрымалі і даставілі спачатку ў Ленінскі РАУС Брэста, а потым у ізалятар часовага ўтрымання.

Цікава, што Сахарука абвінавацілі ў правядзенні несанкцыянаванай акцыі — нягледзячы на тое, што ён паспрабаваў прыняць удзел у афіцыйным мерапрыемстве.



## Віталь Гуркоў

**11-разовы чэмпіён свету і спявак гурта «Brutto» нечакана выбыў з барацьбы за медалі на чэмпіянаце свету па муай-тай, які праходзіць у мінскім Палацы спорту.**

На папярэдняй стадыі турніру Віталь Гуркоў прайграў па ачках байцу з Партугаліі Дыога Каладу. Гуркоў на сваёй старонцы ў Instagram так пракаментаваў паразу: «Сёння я прайграў свой першы чэмпіянат свету. Самае смешнае і няёмкае, што гэта здарылася дома. Дзякуй усім за вялікую падтрымку! Непрыемнасць гэтую мы пераживем. Я жывы! Значыць, бой не скончаны!»

Нагадаем, што ў мінулым годзе баец, які паралельна займаецца творчасцю ў складзе гурта «Brutto», перамог на чэмпіянаце Беларусі. Неўзабаве стала вядома, што байца выключылі са стаўкі ў Мінспорту, і на яго паездку ў Швецыю няма грошай.

Беларусы ў межах праекту «Народны чэмпіён» за лічаныя гадзіны сабралі для Гуркова неабходную суму. Але Гуркоў адмовіўся ад грошай, сказаўшы, што іх збіралі не з яго ініцыятывы, і лепей перадаць іх у дзіцячы дом. Пазней стала вядома, што Федэрацыя муай-тай усё ж знайшла грошы для байца ў дзяржбюджэце.

Тады Гуркоў перамог Экапана Самбаасанаба з Тайланду, які не саступаў у баях 4 гады запар, і стаў чэмпіёнам свету ў 11-ы раз.



Фота www.belprauda.org

# План дзеяння для тых, хто прыйдзе на змену гэтай уладзе

Валярына КУСТАВА

**Праграма эканамічных і палітычных рэформаў Беларусі «Вольная Беларусь», распрацаваная камандай Зянона Пазьняка, была прэзентаваная ў Вільні 8 мая.**

Апроч Зянона Пазьняка над дакументам працавалі Павел Усаў, Сяргей Папкоў, Юры Беленькі, Лявон Баршчэўскі, Павел Мірановіч, Юры Цехановіч і Мікалай Крыжаноўскі. Мы пагутарылі з доктарам паліталогіі Паўлам Усавым.



***— Павел, у вас напісана: «Народная праграма «Вольная Беларусь» — гэта праект новай Беларусі. Распрацавана салідарным калектывам палітыкаў і спецыялістаў дзеля вольнай будучыні краіны, для выкарыстання будучым часовым ці пераходным урадам дзяржавы альбо іншым палітычным утварэннем, якое пасля ліквідацыі антынароднага рэжыму возьме на сябе адказнасць за лёс і будучыню Рэспублікі Беларусь». Ці ствaральнікі праграмы маюць у планах стаць тым Нацыянальным надзвычайным камітэтам, які возьме на сябе кіраванне пасля змены рэжыму?***

— Любыя перамены пачынаюцца з ідэй, якія штурхаюць, матывуюць людзей да дзеянняў. Ідэі акрэсліваюць мэты і змяняюць светапогляд, даюць штуршок для сацыяльных працэсаў і пераменаў, якія вельмі часта рэалізоўваюцца людзьмі, што ўспрынялі, а не стварылі гэтыя ідэі. Праграма стала штуршком для публічнай, інтэлектуальнай дыскусіі вельмі шырокага кола беларускага грамадства. Дыскусія выйшла па-за межы абмежаванай дэмакратычнай супольнасці, што было праблемай усіх апазіцыйных праектаў, і гэта ўжо важны і пазітыўны вынік.

Разам з гэтым, трэба рэальна ацэньваць сітуацыю: палітычныя змены не будуць хуткімі і лёгкімі. Але калі яны адбудуцца (а адбудуцца яны абавязкова), тым людзям, якія прыйдуць да ўлады, будзе патрэбны ўвесь прагрэсіўны інтэлектуальны патэнцыял беларускага грамадства, каб паспяхова ажыццявіць перамены ў Беларусі. Праграма «Вольная Беларусь» можа быць компасам для новай палітычнай эліты, можа стаць элементам іншай стратэгіі, але важна, каб гэтая стратэгія была. Людзі, якія прыйдуць на змену існуючаму рэжыму, павінны загадзя ведаць, што і як рабіць, а не распрацоўваць стратэгію дзеянняў тады, калі патрэбныя самі дзеянні. Бо за вельмі абмежаваны час пераходнага перыяду трэба будзе зрабіць даволі шмат.

Што тычыцца Нацыянальнага надзвычайнага камітэту, то гэта прапанова звязана з адным са сцэнараў (больш-менш верагодных) пераходнага перыяду ў Беларусі, калі апазіцыйныя сілы ў выніку дэкансалідацыі аўтарытарнага рэжыму ў краіне могуць прыйсці да ўлады. У гэты перыяд будзе патрэбны часовы, але эфектыўны механізм для хуткай рэарганізацыі палітычных інстытутаў і правядзення рэформаў дзеля замацавання дэмакратычных зменаў. Могуць быць і іншыя сцэнары пераменаў у краіне. Дэмакратычныя палітыкі і грамадскія актывісты павінны быць гатовыя да розных з іх. Хто будзе кіраваць новай Беларуссю — цяпер сказаць ніхто не ў стане.

***— Праграма разлічана менавіта на выпадак безуладдзя. Няўжо эксперты не разглядалі варыянт, што на змену ўсё ж нехта прыйдзе — злева ці справа, з Усходу ці з Захаду, са сваёй праграмай? Магчыма, іх ужо рыхтуюць.***

— У гісторыі нічога і ўсё адбываецца праз выпадак. У свой час нават Лукашэнку разглядалі як «выпадковага прэзідэнта». Безумоўна, сцэнараў можа быць шмат, мы разглядалі толькі такі, пры якім на змену сённяшняму кіроўнаму клану прыйдуць апазіцыйныя дэмакратычныя сілы. Асноўныя палітычныя інструментары распрацаваныя менавіта для новай дэмакратычнай эліты. Калі новая апазіцыя будзе ў стане распрацаваць сваю праграму — добра, але пакуль іншых сістэмных праграм няма.

Што тычыцца альтэрнатыўных сцэнараў палітычных працэсаў — унутрынаменклатурных зменаў, расійскага ўмяшання — зразумела, нашая праграма ў такіх умовах будзе не патрэбная, бо сістэма ўладных каардынатаў не зменіцца, а можа нават і пагоршыцца. Праграма разлічана на дэмакратычныя перамены, а не на ўнутрыаўтарытарныя гульні. Безумоўна, варта прааналізаваць усе магчымыя сцэнары пераменаў у Беларусі, пралічыць ключавых гульцоў і ключавыя ўплывы, каб выпрацаваць механізм дзеяння для беларускай дэмакратычнай супольнасці ў новых умовах, але гэта асобная іншая праца.

***— Над чым вы працавалі?***

— Я займаўся працай над палітычным блокам праграмы, які ўключаў у сабе аналіз, звязаны з пераходным перыядам, фармаванне асноўных дэмакратычных інстытутаў і дадатковых антыкрызісных механізмаў, такіх, напрыклад, як «Антыкрызісная рада», а таксама праблематыкай мясцовага самакіравання. За аснову браўся практычны досвед, часта негатыўны, былых савецкіх рэспублік, — менавіта для таго, каб распрацаваць такія механізмы функцыянавання палітычнай сістэмы ў пераходны перыяд, якія б дазволілі пазбегчы глыбокага ўнутрыпалітычнага крызісу і не дазволілі спыніць працэс дэмакратызацыі ў Беларусі. Палітычны досвед некаторых постсавецкіх краін — Кыргызстан, Украіна, Малдова — паказвае, што слабасць дэмакратычных інстытутаў і адсутнасць палітычнай адказнасці кіроўных элітаў могуць прывесці да драматычных падзеяў, асабліва пасля змены аўтарытарных лідараў. Канешне, праграма і тое, што яна прапануе, не будзе панацэяй ад «кепскіх» палітыкаў, але, прынамсі, дасць магчымасці абмежаваць уплывы такіх асобаў на лёс краіны.

Важнасць праграмы — у тым, што яна сістэмная, то бок прапануе кірункі зменаў ва ўсіх ключавых сегментах беларускай дзяржавы і грамадства. Без палітычных пераменаў немагчыма будзе рэалізаваць сацыяльна-эканамічныя рэформы, але без паспяховых сацыяльна-эканамічных рэформаў немагчыма будзе замацаваць устойлівае развіццё дэмакратычнай сістэмы. Дзяржава, як і чалавек, можа добра функцыянаваць толькі тады, калі ў яе здаровыя ўсе часткі цела — усе элементы сістэмы. Сённяшняя беларуская дзяржава — вельмі хворы чалавек, яна здольная функцыянаваць толькі ў гіпсе і баракамеры, таму перад наступным пакаленнем беларускіх палітыкаў стаіць задача не толькі выратаваць дзяржаву ад смерці, але стварыць жыццяздольны арганізм. Праграма прапануе комплекс палітычных і сацыяльна-эканамічных працэдур для рэалізацыі гэтай задачы.

***— З раздзела «Мова» я разумею, што будзе ўведзеная беларуская як адзіная дзяржаўная. Ці няма перасцярогі, што з празмернага акцэнтавання на мове, а не на эканоміцы, адбудзецца тое самае, як у 1990-я, калі ўлада ластаўкай з рук выпырхнула...***

— Упэўненасць людзей у тым, што як толькі да ўлады прыйдзе апазіцыя, то яна будзе займацца толькі мовай, — вынік мэтанакіраванай маніпуляцыі і міфалагізацыі свядомасці грамадства, таксама і праз скажэнне гісторыі. Менавіта афіцыйныя ідэолагі ўвесь гэты час укладалі ў галовы людзей міф, што, калі б да ўлады не прыйшоў Лукашэнка, у Беларусі б пачалася грамадзянская вайна. Але ўсе, хто добра ведаюць гісторыю пачаткаў нашай незалежнасці, разумеюць, што гэта хлусня. Цяпер беларускі рэжым працягвае займацца міфалагізацыяй і прапагандай, а не рэформамі і пытаннямі, звязанымі з паляпшэннем жыцця грамадзян. Бо сённяшняя сістэма няздольная да рэформаў.

Зразумела, што нацыянальная палітыка, захаванне нашай культурнай і гістарычнай спадчыны — гэта адзін з ключавых напрамкаў дзейнасці новай улады. Але ніхто не збіраецца замяшчаць ёю сацыяльна-эканамічныя рэформы і сістэмную трансфармацыю.

***— Як напісана ў матывацыі да праграмы: «Становчыя вынікі праграмных рэформаў будуць адчувацца адразу і ўдасканальвацца з кожным годам. Ужо праз пяць гадоў Беларусь непазнавальна зменіцца да лепшага. Праз дзесяць гадоў гэта будзе моцная заможная і вольная ўсходнееўрапейская краіна, са шчаслівым вольным працавітым насельніцтвам, прыкладна ў дзесяць з паловай мільёнаў радасных пазітыўных людзей, якія, як некалі, будуць усміхацца адно аднаму»...***

— Чым даўжэй будзе захоўвацца існуючы рэжым, тым горш будуць умовы пераходнага перыяду. Мы не ведаем, у які стане апынецца Беларусь пасля сыходу Лукашэнкі. Можа стацца так, што ў бюджэце краіны не застанецца грошай, а Беларусь будзе мець велізарныя пазыкі і фактычна збанкрутуе.

Але трэба ўлічваць і тое, што беларускае грамадства не знаходзіцца ва ўмовах савецкага існавання канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, калі ўсё, у тым ліку і эканамічная дзейнасць, было рэгламентавана дзяржавай, а самастойная эканамічная актыўнасць толькі зараджалася. Сённяшняе грамадства непараўнальна больш самастойнае, нават сацыяльна і эканамічна актыўнае, нягледзячы на тое, што аўтарытарная ўлада сваімі абсурднымі законамі намагаецца абмежаваць, а часам і забіць гэтую ініцыятыву. Разняволенне сацыяльнай і эканамічнай актыўнасці, безумоўна, прывядзе да хуткіх зменаў. У сваю чаргу, дзяржава створыць нармальныя ўмовы, гарантыі і правілы для вядзення бізнесу, што паспрыяе замежным інвестыцыям і развіццю гаспадаркі ў цэлым. Ці магчыма гэта зрабіць на працягу 5 гадоў пасля адхілення сённяшняй кіроўнай групоўкі? Так, магчыма.

***— Ці здольная гэтая праграма аб'яднаць апазіцыю?***

— Для аб'яднання патрэбна не праграма, а палітычная воля і палітычная адказнасць. А гэтага няма, і наўрад ці будзе. Партыі і рухі гуляюць у свае дробныя гульні, і ім гэтага дастаткова. Праграма не разлічана на «старую» апазіцыю, але, быць можа, стане штуршком для нараджэння новай.

***— У чым адметнасць менавіта гэтай праграмы?***

— Праграма не з'яўляецца маніфестам нейкага вузкага палітычнага кола, не служыць нейкай партыі альбо руху. Яна стваралася як сістэмная, пакрокавая інструкцыя дзеяння для тых, хто можа прыйсці на змену існуючай уладзе. Тыя праграмы, пра якія вы згадвалі раней, маюць, хутчэй, фармат дэкларацый, агульных фармулёвак, якія выкарыстоўваюцца ў выбарчых кампаніях. Праграма «Вольная Беларусь» — гэта праграма канкрэтных дзеянняў, накіраваных на пабудову дэмакратычнай сістэмы.

***— «Праграма адлюстроўвае тыя крокі, якія неабходна рабіць у пераходны перыяд пасля змены рэжыму». Але ж штука ў тым, што цяпер трэба акурат праграма, а нават хутчэй план, каб рэжым змяняць...***

— Маеце рацыю. Я не выключаю, што праграма можа стаць першым крокам на шляху падрыхтоўкі плану па рэалізацыі палітычных зменаў у краіне. Якім ён будзе, сказаць вельмі цяжка, але апошнія падзеі ў Беларусі паказалі, што грамадства патрабуе пераменаў, яно гатовае на гэтыя перамены, але пакуль проста не мае дастатковай унутранай салідарнасці дзеля рэалізацыі сваіх намераў. Паглыбленне сацыяльна-эканамічнага крызісу, раздражнёнасць уладай будуць ствараць умовы для росту незадаволенасці, што ў будучым можа стаць штуршком для палітычных зменаў. І трэба быць гатовым да гэтых зменаў.

***— Ці плануецца прэзентацыя праграмы ў самой Беларусі?***

— Беларускія ўлады проста не дазволяць правесці такую прэзентацыю. Дакумент нават не дазваляюць увозіць у краіну. Некалькі асобнікаў былі канфіскаваныя і скіраваныя на экспертызу па выяўленні экстрэмісцкага зместу. З улікам таго, які рэзананс мела публікацыя асобных частак праграмы, улады ўспрынялі яе як небяспеку. Трэба адзначыць, што Лукашэнка і яго атачэнне заўсёды рэагуюць нервова і неадэкватна, калі дзеянні грамадзян не адпавядаюць іх схемам і чаканням.

# Непакорлівы сабекошт квадратнага метра



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Плён працы Нацбанка — паніжэнне інфляцыі і цвёрдая манетарная палітыка — адкрываюць дарогу для з'яўлення жыллёвых назапашвальных праграм, іпатэкі і іншых мадэляў недзяржаўнага фінансавання будаўніцтва жылля. Застаецца вырашыць яшчэ адну праблему — завышаны кошт будаўніцтва.**

У беларускай эканамічнай сітуацыі будаўніцтва жылля — лепшы спосаб прыцягнуць унутраныя інвестыцыі, далучыць назапашванні грамадзян у эканоміку. Бо фондавы рынак за 25 гадоў у краіне так і не сфармаваўся: укладаць свае зберажэнні ў акцыі нейкага прадпрыемства, разлічваючы на дывідэнды, — для простага беларуса дзікунства. А ўкласці іх у кватэру, дом — зусім іншая справа.

З іншага боку, зразумець, як фармуецца кошт квадратнага метра ў новабудоўлях, — складаней, чым вывучыць квантавую фізіку. Тут у кожнага — свая праўда. Забудоўшчыкі наракаюць на самаўпраўства чыноўнікаў і празмерна дарагія банкаўскія крэдыты, пакупнікі кватэр у новабудоўлях кажуць аб сарваных тэрмінах і жудаснай якасці будаўніцтва, эканамісты паказваюць на надта дарагія айчынныя будматэрыялы, а іншыя проста раяць будаўнікам менш красці.

## Два погляды на адзін кошт

Яшчэ ў канцы мінулага года, выступаючы перад парламентам, віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін казаў, што кошт будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай можа знізіцца да 280 долараў за квадратны метр.

У сваю чаргу, бізнесмен і палітык Андрэй Клімаў прыводзіць уласныя разлікі — і не на пустым месцы, а як былы кіраўнік АТ «Андрэй Клімаў і КО», якое ў 1990-х гадах займалася ў тым ліку і будаўніцтвам. Паводле яго меркавання, рэальны сабекошт панельнага домабудавання — $80–100 за квадратны метр.

«Створана штучная манаполія, калі не сказаць — мафія, якая кантралюе вылучэнне зямельных участкаў і, натуральна, кантралюе кошт. 800–1000 долараў за квадратны метр у панельках — наркагандаль адпачывае! Кошт завышаны як мінімум у пяць разоў! Тлумачу: заводы будматэрыялаў знаходзяцца ў Мінску, будаўнічыя пляцоўкі — з гатовымі камунікацыямі, — падлічвае Клімаў. — Звярніце ўвагу: дамы будуюцца толькі там, дзе не трэба затрачваць дадатковыя сродкі, але кошт трымаецца. Усе ведаюць, што камунікацыі — гэта каля 50% ад кошту будаўніцтва. Прыбірайце 50% — максімум квадратны метр павінен каштаваць 300–400 долараў. Домабудаўнічыя прадпрыемствы нічога не плацяць за забруджванне навакольнага асяроддзя, таму што знаходзяцца на забеспячэнні горада, — зніжайце кошт будаўніцтва ў два разы. Ужо метр каштуе 200 долараў. Прыбярыце мафію і зрабіце канкурэнцыю — кошт квадратнага метра паменшыцца да 100 долараў, як гэта было ў 1990-х гадах. Агулам кошт памяншаецца ў 7–8 разоў!»

Гэта адзін падыход, у якім Калінін і Клімаў сыходзяцца ў меркаваннях. У іх апанентаў — свае лічбы і свая праўда. Спрэчка пра сабекошт успыхнула з новай сілай пасля таго, як напрыканцы лютага Андрэй Кабякоў наведаў ААТ «Гомельскі домабудаўнічы камбінат». Там прэм'еру распавялі, што, дзякуючы мадэрнізацыі прадпрыемства і паніжэнню выдаткаў на вытворчасць, Гомельскі ДСК здолеў знізіць сабекошт будаўніцтва жылля (з дзяржпадтрымкай) да 260 долараў за квадрат, а на камерцыйнай аснове — да 303 долараў. Гэты кошт апынуўся самым нізкім у краіне і, па меркаванні Кабякова, павінен стаць арыенцірам для іншых будаўнічых арганізацый Беларусі.

Але, што цікава, у самім Гомельскім ДСК зусім не лічаць, што дасягнуты імі сабекошт прыдатны для любога будаўніцтва. «На фармаванне кошту ўплывае мноства фактараў — колькасць секцый у доме, павярхавасць, набор кватэр, іх колькасць на паверсе, аздабленне фасадаў, спосаб будаўніцтва і крыніца фінансавання. Напрыклад, у аднасекцыйным доме з адна- і двухпакаёвымі кватэрамі сабекошт будаўніцтва самы высокі, — тлумачыць Таццяна Канстанцінава, намдырэктара па эканоміцы і фінансам ААТ «Гомельскі домабудаўнічы камбінат». — Ёсць дамы, якія будуюцца па дзяржзамове, ёсць ільготнае будаўніцтва для грамадзян, што жывуць у нястачы, а ёсць дамы, якія ўзводзяцца на камерцыйнай аснове. Калі будаўніцтва ідзе на камерцыйнай аснове, мы нясем дадатковыя выдаткі, якія не ўключаюцца ў кошт будаўніцтва дамоў па дзяржзамове і для грамадзян, якім патрэбна паляпшэнне жыллёвых умоў. Пры будаўніцтве па дзяржзамове прыбытак забудоўшчыка наогул не прадугледжаны, а пры долевым будаўніцтве для грамадзян, якія жывуць у нястачы, ён абмежаваны 5%».




**Будаўніцтва жылля доўгі час прыносіла звышпрыбыткі, бо дэвелоперы не плацілі за пракладку новых камунікацый. Яны выкарыстоўвалі «запас трываласці» сетак, пракладзеных яшчэ ў СССР. Але за чвэрць стагоддзя рэсурс савецкай камунальнай інфраструктуры быў вычарпаны**

## Высокі парог камунікацый

Па вялікім рахунку, ёсць толькі адна сур'ёзная праблема, якая ў агляднай будучыні не дазволіць значна знізіць сабекошт будаўніцтва квадратнага метра жылля. Гэта праблема камунікацый — сістэм размеркавання газу, вады, электрычнасці, каналізацыі. Камерцыйнае будаўніцтва жылля доўгі час прыносіла звышпрыбыткі менавіта з-за таго, што дэвелоперы, часцей за ўсё, не плацілі за пракладку новых сетак. Яны выкарыстоўвалі «запас трываласці» камунальных сетак, пракладзеных яшчэ ў часы СССР.

Менавіта гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца любоў айчынных дэвелопераў і прастымуляваных імі гарадскіх чыноўнікаў да ўшчыльняльнай забудовы ў старых жылых кварталах — там можна далучыцца да існуючых камунікацый, не выдаткоўваючыся на пракладку новых.

Аднак за чвэрць стагоддзя рэсурс савецкай камунальнай інфраструктуры быў вычарпаны. Сёння любы больш-менш маштабны будаўнічы праект патрабуе найперш «з нуля» стварыць інжынернае забеспячэнне — пракласці ў чыстым полі ўсе камунікацыі — прычым, з адпаведным маштабаваннем камунальнай інфраструктуры на ўзроўні горада або раёна. А гэта капітальныя выдаткі такога маштабу, якія не пацягне ні адзін камерцыйны забудоўшчык або дзяржаўны жыллёва-будаўнічы камбінат.



Простага выхаду з гэтай сітуацыі няма. Альбо выдаткі на пракладку інфраструктуры будуць ускладзены на забудоўшчыкаў — тады пра паніжэнне сабекошту можна забыцца. Дый наогул жыллёвае будаўніцтва за межамі дзяржзамовы рызыкуе замарозіцца. Пры цяперашніх прыбытках насельніцтва, квадратны метр за 1000 долараў, мякка кажучы, даступны не ўсім.

Альбо дзяржава возьме на сябе выдаткі на інфраструктуру — проста, каб стымуляваць развіццё будаўнічай галіны і жыллёва-назапашвальных фінансавых праграм. Але тады паніжэнне сабекошту будаўніцтва будзе фальшывым: бо з нас усё роўна спагоняць гэтыя грошы ў бюджэт, толькі ўжо іншымі шляхамі. Да таго ж, атрымаецца, аплачваць патанненне кватэр для невялікай колькасці грамадзян будзе ўсё беларускае грамадства, што таксама не надта справядліва.

Ёсць, зрэшты, і іншыя бар'еры перад паніжэннем сабекошту будаўніцтва. Найбольш запатрабаваныя на рынку адна- і двухпакаёвыя кватэры. Але на кожную кватэру патрэбна асобная пліта, унітаз, ванная. Таму, чым менш у доме трох- і чатырохпакаёвых кватэр, тым даражэйшымі атрымліваюцца ўсе астатнія.

Іншая праблема — падземныя паркінгі. Па цяперашніх нарматывах на кожную кватэру ў доме прадугледжана машынамесца ў паркінгу і яшчэ 25% месцаў для агульнага карыстання. Але на практыцы ў бюджэтных новабудоўлях машынамесцы ў гаражах не купляюць наогул. І яны ляжаць мёртвым грузам на ўсіх забудоўшчыках.

Зараз у шмат якіх дэвелопераў кошт квадратнага метра ў новабудоўлях для пакупнікоў скараціўся з 2000 (у 2008 годзе) да 850 долараў сёння — і гэта ў дамах аднолькавых спажывецкіх якасцяў.

Ведама, самі дэвелоперы гавораць пра эканомію за кошт «удасканалення вытворчых працэсаў», але зразумела, што ў рэальнасці мы проста бачым, якія звышпрыбыткі яны атрымлівалі ў больш сытыя гады.

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Размову з Аленай Анісім мы задумалі за некалькі гадоў да таго, як яна стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, а калі дайшла справа да дыктафоннага запісу, вырашылі абмежавацца толькі канстатацыяй самога факту прыналежнасці да беларускага парламента, у якім яна працуе ў камісіі па адукацыі, культуры і навуцы. Затое пра сваё жыццё і наканаваны выбар сама Алена Анісім расказала шмат.**



Фота www.tut.by

# Выбар Алены Анісім

### Наканаваны выбар

Я нарадзілася ў настаўніцкай сям'і 28 верасня 1962 года ў вёсцы Савані Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Маю двух братоў, Віктар старэйшы за мяне на 13 гадоў, Анатоль — на 9. Абодва ўжо на пенсіі, адзін жыве ў Мінску, другі — на Стаўбеччыне ў вёсцы Перагокі.

Бацька, Мікалай Сцяпанавіч Амельчыц, выкладаў рускую і беларускую мовы, а таксама мову нямецкую, якую добра ведаў, таму што патрапіў пад акупацыю, а да гэтага вучыўся ў гімназіі ў Стоўбцах. Сярод вяскоўцаў у яго быў вялікі аўтарытэт. Заўсёды запрашалі на сямейныя святы, накшталт вяселляў і хрэсьбінаў. Ён нават мірыў маладых, калі ў тых узнікалі сур'ёзныя спрэчкі.

Мама, Вера Іванаўна Амельчыц, выкладала матэматыку, а перад пенсіяй працавала выхавацелькай групы падоўжанага дня.

Так атрымалася, што найбольшы ўплыў на мяне аказаў бацька.

Добра памятаю, што першыя словы прачытала ўжо ў чатыры з паловай гады. Гэта была назва «Настаўніцкай газеты». Слова «настаўніцкая» я яшчэ асіліць не магла, а «газета» прачытала выразна.

Бацькі вырашылі аддаць мяне ў школу раней часу. Па-першае, таму, што не было з кім пакідаць, па-другое, яны ўсё роўна ішлі туды кожны ранак, і проста сталі браць мяне з сабой.

Такім чынам, школьніцай я стала, калі яшчэ не было шасці гадоў.

Цяпер разумею, наколькі з іх боку гэта было правільна. Я расла і ўвесь час (у тым ліку і фізічна) падцягвалася да дзяцей, якія былі за мяне на год старэйшымі.

У гэты ж час бацька навучыў мяне катацца на каньках, што стала захапленнем на бліжэйшыя дзесяць гадоў. Зімой я каталася кожны дзень. Браты вучыліся на філфаку БДУ і, калі прыязджалі дамоў, чысцілі мне ад снегу ўсе бліжэйшыя стаўкі, сажалкі і нават кар'еры, якія пасля таго, як адтуль забіралі торф, залівала вадой. Практычна не было таго дня, каб не каталася на каньках. Дзе заўгодна, хоць па выслізганай дарозе.

Акрамя гэтага, бацька істотна паўплываў і на тое, каб мой характар быў такім, які ён стаў зараз. Мяккі па-жаночаму, але і па-мужчынску дастаткова прамалінейны і прынцыповы.

На ўсё жыццё мне запомнілася шмат яго выразаў. Прывяду толькі адзін прыклад. Калі ў падлеткавым узросце ў мяне нешта не атрымлівалася, і я моцна нервавалася-злавалася, ён казаў: «Я ў тваіх бедах не вінаваты». Гэтыя словы ставілі ўсё на месца. Я навучылася ў сваіх бедах абвінавачваць толькі сябе.

А яшчэ бацька навучыў мяне крытычна ставіцца да прапаганды. Ён не быў камуністам, ніколі да гэтага не імкнуўся, што і прывіваў сваім дзецям. А яго маці (мая бабуля Серафіма) была і ўвогуле антысаветчыцай. Заходняя Беларусь усё ж...

А вось мама мая паходзіла з Усходняй Беларусі. Яна родам з вёскі Сакольнікі, якая, напэўна, ужо стала часткай Віцебска.

Такім чынам, у нашай сям'і як бы паядналіся дзве часткі Беларусі. І гэта крышачку адчувалася. Памяркоўная, ціхмяная маці і баявы, крытычна настроены да савецкай улады бацька.



Алене Анісім — пяць гадоў. 22.02.1969

Вучылася я выдатна. Пасля васьмі класаў рыхтавалася паступаць у радыётэхнічны тэхнікум, які зараз стаў каледжам. Мы з бацькам нават ездзілі ўсё там пагледзець, аднак перад тым, як я павінна была ехаць падаваць дакументы, ён задумліва сказаў: «Канешне, ты, Алена, можаш рабіць, як хочаш, але там трэба працаваць з машынамі, а табе можа лепш з людзьмі».

Гэта прымусіла моцна задумацца. У выніку, я пайшла ў дзявяты і дзясяты класы, што азначала пераход у сярэднюю школу вёскі Залужжа. Ад нас гэта шэсць кіламетраў. Калі было магчыма, кожны дзень ездзілі на роварах. А зімой жылі там «па кватэрах».

Я заўсёды з задавальненнем удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, чаму актыўна спрыялі бацькі. Дарэчы, мая маці добра іграла на гітары. У маладосці яна была ў складзе настаўніцкага школьнага ансамбля.

Увогуле, тады была натуральная традыцыя спяваць сямейным колам. У нас быў спеўнік песняў на беларускай мове. Мой бацька ведаў акрамя процьмы беларускіх песняў шмат украінскіх.

Я таксама хацела скончыць яшчэ і музычную школу. І нават туды паступіла, аднак месцілася яна ў Стоўбцах, трэба было ездзіць, што не заўсёды атрымлівалася, і ад гэтага захаплення давялося адмовіцца. Бацька нават купіў акардэон, і я саматугам вучылася на ім граць.



З бацькам Мікалаем Сцяпанавічам Амельчыцам



На суботніку. Дзявяты клас. 23.04.1977

У тыя ж часы я перамагла на абласным конкурсе сачыненняў, пра што сведчыць адпаведны дыплом. Сярэднюю школу скончыла з залатым медалём.

Маці — матэматык, бацька — філолаг, таму я крыху вагалася з жыццёвым выбарам, хаця адназначна марыла быць настаўніцай. Урэшце перамог тата. Я разважала так: «Матэматыку я сама разумею, але ці змагу гэта растлумачыць дзецям так, каб зразумелі яны...»

Для пятнаццацігадовай дзяўчыны гэта стала галоўным аргументам — і я падала дакументы на філалагічны факультэт БДУ.

### Матэрыялізацыя выбару

На філфак я паступіла без усялякіх праблем. Акрамя вучобы і лагічнага ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці нашага факультэта, я прыдбала яшчэ занятак. Мой старэйшы брат Віктар (на філфаку вучыліся абодва) у свой час быў перакладчыкам у турыстаў з Польшчы.

Я таксама пачала працаваць з турыстамі, толькі з Чэхаславакіі. Мову вывучыла разам з аднакурснікамі ў складзе адпаведнай групы, многія з іх па маім прыкладзе таксама ездзілі з групамі як перакладчыкі. Дарэчы, славацкая мова больш падобная да беларускай, чым чэшская.

А другі брат, Анатоль, ездзіў у будаўнічыя атрады, чым таксама стаў для мяне прыкладам.

Пасля першага курса (нягледзячы на ўзрост, які афіцыйна забараняў працаваць) мы паехалі ў Бярэзінскі раён на цагляны завод. Наш будаўнічы атрад быў жаночым. Недзе ў сямейным альбоме захаваліся (вельмі дрэнныя па якасці) фотаздымкі тых часоў — маладыя дзяўчаты здымаюць з канвеера па 4–5 цаглін...

Бацька вельмі хваляваўся за мяне і нават прыязджаў паглядзець, як мы там жывём.

Праз год я ўжо паехала працаваць у Малдову, збіраць ураджай памідораў і гароху. Гэта быў 1980-ты, год алімпіяды ў Маскве.

Дарэчы, менавіта ў гэты час я цалкам перайшла на беларускую мову. Калі з бацькамі ніякіх праблем не было, то па месцы вучобы адчуваўся пэўны дыскамфорт. Выключна псіхалагічнага плана. Яно і зразумела. Калі яшчэ ўчора ты размаўляў «як усе», а сёння цалкам перайшоў «на мову», то ўзнікаюць нейкія пытанні. Хай ён і кароткі, але гэты перыяд трэба было вытрымаць і перастаць вагацца.

На трэцім курсе я ўжо была ў «Майстроўні». У 18 гадоў чалавек — фактычна сфармаваная асоба і робіць асэнсаваныя выбары, таму «Майстроўня» для мяне стала нечым магістральным у жыцці. Было прыемна ўсведамляць, што побач з табой шчырыя сябры і аднадумцы.

Асяроддзе — надзвычай важна. Думаю, у гэтым сэнсе мне шчасціла. Сярод маіх аднагрупнікаў і аднакурснікаў былі вельмі вядомыя людзі — Вінцук Вячорка, Сяргей Запрудскі, кандыдат філалагічных навук Вераніка Курцова, якая зараз працуе ў Акадэміі навук, маглёўскі паэт Сяргей Украінка, на жаль, ужо адышоўшая ў лепшы свет паэтка Ала Канапелька.

Нічога ў нашым жыцці не бывае бессэнсоўным, усё пакідае свой адбітак. Мне вельмі пашанцавала з тымі, хто быў побач, з тымі, хто вучыў жыць. Карыстаючыся момантам, нагадаю свайго класнага кіраўніка, настаўніцу беларускай мовы Любоў Ульянаўну Война і ўніверсітэцкага выкладчыка, які зрабіў першы пасляваенны правапіс белару-

скай мовы, Яўгена Міхайлавіча Камароўскага. Яны навучылі мяне быць адказнай, мэтанакіраванай і прынцыповай.

Нягледзячы на тое, што сустрэчы «Майстроўні» праходзілі на нашым філфаку, яе нельга назваць «філфакаўскай», бо там было багата студэнтаў з іншых факультэтаў і ВНУ — хімікі, журналісты, гісторыкі, эканамісты.

Для сустрэчаў давалі нават актавую залю факультэта. Напэўна, гэтаму спрыяла тое, што нашым выкладчыкам быў светлай памяці Ніл Сымонавіч Гілевіч, з яго аўтарытэтам і прыязнымі адносінамі да ўсяго беларускага.

У «Майстроўні» мы ставілі «Цара Максіміліяна», а Ларыса Сімаковіч вучыла спяваць. А яшчэ вучыліся ладзіць розныя народныя святы. Накшталт «Гукання вясны» 1982 года. А на адным са святаў была сустрэча са спявачкай Валянцінай Пархоменка. На той момант, здаецца, ужо народнай артысткай Беларусі.

Дарэчы, на іншым факультэце БДУ (механіка-матэматычным) вучыўся і мой муж Валерый. У 1982 годзе ён скончыў вучобу і размеркаваўся на мінскі «Інтэграл», а ў 1983-м мы пабраліся шлюбам. Я вучылася тады на пятым курсе.

Праз дзесяць дзён пасля абароны дыплома я нарадзіла старэйшага сына Аляксандра.

Дэкрэтны адпачынак тады быў паўтара гады. Але я толкам не паспела папрацаваць, як нарадзіла другога сыночка Мікалая.

Калі яму споўніўся год, я выйшла на працу ў СШ №55 Мінска. Выкладала там беларускую мову і літаратуру, а ўсяго праз пару месяцаў, паколькі гэта была толькі кадравая замена, перайшла працаваць у СШ №71, якая зараз стала гімназіяй. Першы запіс у працоўнай кніжцы там зрабілі 25 жніўня 1986 года. Адпрацавала там пяць гадоў.

Так здарылася, што ў лепшы свет адышоў бацька. Пасля смерці бацькі маці пачувала сябе вельмі кепска, я знаходзілася побач і кожны дзень з роднай вёскі Савані ездзіла ў Мінск на працу на электрычцы.

Вярталася ў 10–12 гадзін вечара, а ў 5 гадзін раніцы падымалася зноў. Гэта доўжылася адну вучэбную чвэрць, а потым я забрала маму да сябе ў Мінск. Падыходзячую кватэру знайсці было надзвычай цяжка, бывала, жылі ў адным пакоі ўсе разам, упяцёх.

Праз пэўны час мужу, як маладому спецыялісту, прапанавалі пабудаваць кааператыўную кватэру, і ў 1988 годзе мы пераехалі ў чатырохпакаёўку на Паўднёвым Захадзе.

Шмат хто памятае тыя часы — чэргі, перапоўнены транспарт, татальны дэфіцыт… Не разумею тых, хто марыць пра «светлае ўчора».

У 1991 годзе была мода на добрае веданне беларускай мовы і беларушчыну ўвогуле, і з Акадэміі навук шмат хто перайшоў на працу ў Саўмін альбо ў Вярхоўны савет. Кадраў там не хапала, і я падала дакументы на ўдзел у адпаведным конкурсе, пра які даведалася ад маёй сяброўкі Веранікі Курцовай. І прайшла. У школе адпускаць не хацелі, аднак 14 мая 1991 года я прыйшла ў Інстытут мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук.

**Калі я цалкам перайшла на беларускую мову, па месцы вучобы адчуваўся пэўны дыскамфорт. Калі яшчэ ўчора ты размаўляў «як усе», а сёння цалкам перайшоў «на мову», то ўзнікаюць нейкія пытанні. Хай ён і кароткі, але гэты перыяд трэба было вытрымаць**


За штурвалам расійскага вайсковага карабля. 2004 год


Алена Анісім — настаўніца СШ №71

## Прафсаюзны выбар

Канешне, працаваць у школе з дзецьмі нялёгка, аднак сярод бюракратаў — яшчэ цяжэй. Колькасць паперак тады была вялікай, але гэта нішто, калі параўноўваць з тым, што ёсць зараз.

Праз год працы на новым рабочым месцы я нарадзіла трэцяга сына Уладзіміра, а калі ў 1995 (дэкрэт быў ужо тры гады) зноў выйшла на працу, адразу атрымала прапанову ўвайсці ў прафсаюзны камітэт. Шчыра кажучы, гэтая прапанова мне не вельмі спадабалася.

Угаварылі і хутка абралі намесніцай старшыні. Неўзабаве старшыня прафкому Іван Дода з'ехаў на стажыроўку ў Польшчу, і мяне кінулі на яго месца. Так бывае заўсёды, калі чалавек не адмаўляецца адразу.

Але, з іншага боку, новая праца прывяла да таго, што мяне пачалі ўспрымаць як пэўнага лідара. Паколькі, калі выконваеш свае абавязкі належным чынам, так, як сам лічыш неабходным, то абавязкова сутыкаешся з начальствам. Не, гэта не канфлікты. Гэта адстойванне пазіцыі шараговых супрацоўнікаў, бо прафсаюзная дзейнасць — не толькі культурніцкія мерапрыемствы. Гэта — абарона правоў тваіх калегаў.

Было нялёгка, асабліва, калі лідар прафсаюзаў усёй краіны Уладзімір Іванавіч Ганчарык вырашыў прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Фактычна, усе мы былі ў яго камандзе, што на практыцы азначала перманентную напружанасць у адносінах з выканаўчай уладай. Да таго ж я была чальцом Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Дарэчы, атрыманы тады досвед вельмі мне спатрэбіўся, калі я ўдзельнічала ў выбарах сама.

У 1999 годзе мяне дэлегавалі на гарадскую канферэнцыю Таварыства беларускай мовы ад акадэмічнай суполкі. Гарадскую арганізацыю тады ўзначальваў светлай памяці прафесар Аляксей Саламонаў.

Я тады выконвала абавязкі сакратара, і рабіла гэта так добрасумленна, што ён сказаў: «Я хацеў бы бачыць цябе на сваім месцы». Канешне, было прыемна, але і крыху дзіўна.

Прафесар як у ваду глядзеў. Праз некалькі гадоў я ўзначаліла гарадскую арганізацыю ТБМ (2000 год) і была яе кіраўніком аж да 2014 года, калі на змену прыйшоў Аляксандр Давідовіч. Зараз я з'яўляюся першым намеснікам старшыні (Алега Трусава) Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.

У гэтыя ж часы я ўваходзіла ў Рэспубліканскі савет, а нейкі перыяд нават узначальвала Савет старшыняў прафсаюзных арганізацыяў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, куды ўваходзілі і даволі буйныя структуры. Гэта быў вельмі карысны досвед.

Наш прафсаюзны камітэт месціўся ў памяшканнях акадэмічнага Інстытута гісторыі НАН. Паколькі інстытуцкая арганізацыя была невялікай, я кіравала прафсаюзам на грамадскай аснове.


На здымках «Белсата» разам з Янінкай Салаўёвай і яе матуляй. 2017

## Выбар «Новага Часу»

Пачынаючы з 2000 года, я была вельмі цесна завязаная на Таварыства беларускай мовы (ТБМ), таму да актыўнай дзейнасці ў прафсаюзах дадаўся яшчэ і гэты кірунак. У ТБМ былі падрыхтаваныя разнастайныя слоўнікі, беларускі варыянт правіл дарожнага руху, праекты законаў і яшчэ шмат чаго.

А ў 2002 годзе мы запачаткавалі газету «Новы Час». Скажу шчыра, у той момант далёка не ўсе ў гэта верылі і хацелі рабіць. Мауляў, навошта гэта трэба, дастаткова «Нашага слова». Я была сярод тых, хто лічыў, што акрамя таго, што ёсць, патрэбна газета больш высокага ўзроўню, большай чытацкай аўдыторыі. Хацелася зрабіць выданне інтэлектуальнага кшталту, якое было б цікава не толькі сябрам нашай арганізацыі, але і іншым. Распрацавалі канцэпт, прыдумалі назву, вырашылі прызначыць галоўным рэдактарам Кастуся Тарасава. Трэба было толькі знайсці чалавека, які б афіцыйна фігураваў як заснавальнік. Прапанавалі гэта Трусаву, але Алег Анатольевіч заўважыў, што ўжо з'яўляецца заснавальнікам газеты «Наша слова», і прапанаваў у заснавальнікі Мінскую гарадскую арганізацыю ТБМ, якую на той момант ачольвала я.

З задавальненнем пагадзілася зрабіць апошні крок, узяла падрыхтаваныя дакументы і пайшла ў Міністэрства інфармацыі.

Як і трэба было чакаць, там іх браць не захацелі, бо ішоў ужо, паўтаруся, 2002 год, і для незалежных выданняў, скажам мякка, узнікалі пэўныя цяжкасці. У міністэрстве я пачала пералічваць усе неабходныя для рэгістрацыі дакументы, якія ж імі і былі названыя. Аказалася, у мяне ёсць усё, акрамя так званага «рэгістрацыйнага збору», які заўчасна не стала рабіць наўмысна, бо не ведала, да чаго канкрэтна яны прычэпяцца.

Хуценька яго аплаціла і літаральна прымусіла зафіксаваць маю заяўку. Праз пэўны час мне патэлефанавалі з Міністэрства інфармацыі і прапанавалі забраць пасведчанне аб рэгістрацыі.

Вельмі сімвалічна, што першае пасведчанне аб рэгістрацыі было выдадзена 25 сакавіка 2002 года.

Для мяне было надзвычай прынцыпова забраць яго менавіта 25 сакавіка. Памятаю, у Доме ветэранаў у гонар Беларускай Народнай Рэспублікі была імпрэза, і я на ёй з гонарам многім паказвала адпаведны дакумент.

Умоўна дзейнасць любой газеты можна падзяліць на дзве часткі — творчую і адміністрацыйную. Творчай часткай займаўся Кастусь Тарасаў, усім астатнім — я.

Праз пяць гадоў на пляцоўку Кастуся Тарасава прыйшла творчая каманда ліквідаванай уладамі газеты «Згода». Шэф-рэдактарам «Новага Часу», а пасля і галоўным рэдактарам стаў светлай памяці Аляксей Кароль.

Мне здаецца, лінія «Новага Часу» вельмі важная, бо чалавек, які чытае выданне з моманту яго стварэння, можа бачыць тое, што адбывалася ў даўніну, якія тады былі людзі, хто штурхаў, тварыў гісторыю, пакінуў у ёй след. І ведаць, якія постаці ёсць сёння, што канкрэтна яны робяць.

«Новы Час» — беларускі час, які бярэ свае вытокі ў мінулым і накіраваны ў будучыню.

Я ганаруся, што ў свой час спрычынілася да стварэння гэтай газеты.

***P.S.:** Пра дзейнасць дэпутата Палаты прадстаўнікоў Алены Анісім, напэўна, Аляксандр Тамковіч яшчэ напіша пазней. Пакуль жа паведамляем, што на платформе talaka.by распачаўся збор сродкаў на выданне кнігі «Мазаіка жыцця».*

*Аляксандр Тамковіч працаваў над ёй больш за 5 гадоў. Сярод герояў кнігі ў тым ліку будзе і Алена Анісім, а таксама Таццяна Грыневіч, Зміцер Вайцюшкевіч, Кася і Алесь Камоцкія, Генік Лойка, Наталля Гардзіенка, Алесь Пушкін, Барыс Пятровіч, Віктар Марціновіч, Андрэй Хадановіч… І шмат хто яшчэ.*

*«Зразумела, змясціць усіх у адной кнізе вельмі складана, таму «Мазаіка жыцця» — пачатак новага біяграфічнага праекта, і я ўпэўнены — з Божай дапамогай мы створым гэтую энцыклапедыю сучаснасці», — кажа Аляксандр Тамковіч.*

*Газетныя варыянты нарысаў друкаваліся (і друкуюцца) у «Новым Часе». «Мазаіка жыцця» будзе надрукаваная літаральна праз некалькі тыдняў пасля атрымання неабходнай сумы.*

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Палкоўнік Сандэрс таксама плача

Кампанія Kentucky Fried Chicken (KFC) — славутая міжнародная сетка рэстаранаў хуткага харчавання, зрабіла незвычайны рэкламны крок. Да Дня Маці, які святкуецца ў ЗША ў другую нядзелю мая, на кніжным рынку з'явіўся сентыментальны раман, героем якой з'яўляецца сімвал KFC. Кніга пад назвай «Tender Wings of Desire» («Мяккія крылы жадання») распавядае гісторыю адной дзяўчыны. Каб не брацца шлюбам з нелюбімым чалавекам, яна збягае з дому і ў выніку сустракае «прынца» ў выглядзе палкоўніка. Тыя, хто ўжо прачытаў «Мяккія крылы жадання» кажуць, што кніга напісаная вельмі прафесійна, аж да таго, што хочацца плакаць. Хапае жартаў наконт таго, што ў выпадку поспеху кнігі, трэба чакаць адпаведны адказ ад кампаніі McDonald's — асноўнага канкурэнта KFC, сімвалам якога з'яўляецца клоўн Рональд. Застаецца дадаць, што палкоўнік Сандэрс меў рэальнага прататыпа — кухара Харланда Сандэрса. Праўда, вайсковым Харланд Сандэрс (1890–1980) быў толькі падчас вайны на Кубе на пачатку XX стагоддзя. Тытул палкоўніка ён атрымаў у 1935-м ад губернатара Тэнэсі, які палюбіў смажаную курку Сандэрса.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Іспыт на «бязвіз» прайшлі

Апублікаваныя першыя дадзеныя пра тое, як працуе бязвізавы рэжым Грузіі з краінамі шэнгенскай зоны. Візы стала непатрэбныя грузінам для падарожжаў у ЕС больш за месяц таму — 28 сакавіка. Паралельна з адменай візаў у Тбілісі нарасталі панічныя настроі. Маўляў, грузінскі «бязвіз» доўга не пратрымаецца праз тое, што грузінскія беспрацоўныя масава накіруюцца працаваць у Еўропу. Тым больш, што перад 28 сакавіка ў Брусэлі былі прынятыя адпаведны закон, які дазваляе аператыўна ўводзіць старыя правілы на межах. Першыя статыстычныя дадзеныя працы «бязвізу» дазваляюць грузінскім уладам расслабіцца. За месяц «бязвізу» краіны ЕС наведалі амаль 12 тысяч грамадзян Грузіі. Толькі 26 чалавек атрымалі адмову ва ўездзе праз тое, што не былі здольныя абгрунтаваць мэту свайго візіту або не мелі біяметрычных пашпартоў. Пра тое, што іспыт на «бязвіз» здадзены, сведчыць і нядаўні выбух інтарэсу да Грузіі з боку шэрагу замежных авіякампаній.

**Паводле грузінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Бароды не пройдуць!

Яшчэ напрыканцы красавіка Нурсултан Назарбаеў у межах барацьбы з пагрозай радыкальнага ісламу паабяцаў змагацца з барадамі і кароткімі нагавіцамі. Між тым, казахскае грамадства дагэтуль не можа прыйсці ў сябе. Занадта радыкальна прагучалі ідэі Елбасы, які назваў кароткія нагавіцы і бароды выклікам дзяржаве. Навіна абляцела казахскі інтэрнэт і стала падставай для шматлікіх жартаў. Пакольні бароды носяць хрысціяне, яўрэі і некаторыя моладзевыя субкультуры, Назарбаева заклікаюць стварыць навуку «барадазнаўства». «А шорты можна насіць? Яны яшчэ карацей за нагавіцы», — пытаюцца іншыя. Нарэшце, ёсць ініцыятыва стварыць «падатковую сістэму» для мужчын, якія жадаюць насіць бараду і вусы. Ужо ёсць праект падатковай стаўкі: «Барада (вусы) чорная даўжынёй больш за 12,4 см. Гадавы падатак — 1530 долараў на год. Барада (вусы) рудая даўжынёй больш за 12,1 см. — 1214 долараў на год» і гэтак далей. Калі сур'ёзна, дык шмат хто мяркуе, што «барадаты закон» накіраваны на тое, каб нагнятаць істэрыю ў грамадстве, прымушаць абывацеляў забываць пра рост цэнаў і беспрацоўя, кансалідуючыся вакол рэжыму, што знаходзіцца ў перманентна крызісным стане.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Сто гадоў Латгальскаму кангрэсу

Роўна сто гадоў таму, 9–10 мая 1917-га, у горадзе Рэзэкнэ (Латвія) адбыўся так званы Латгальскі кангрэс, які меў глабальныя вынікі для рэгіёну, у тым ліку і для Беларусі. Латгальскі кангрэс павінен быў вызначыць, хто такія латгальцы — латышы або ўсё ж асобны народ, які мусіць ствараць асобную адміністратыўную адзінку або шукаць пратэктарату дзяржаў-суседзяў? Латгальцы — балцкі этнас. Большасць вернікаў-латгальцаў вызнаюць каталіцызм, што адрознівае іх ад латышоў, якія з'яўляюцца пераважна лютэранамі. Па выніках сходу ў Рэзэкнэ было вырашана, што латгальцы і латышы — адзіная латвійская нацыя. Гісторыкі лічаць, што без рэзалюцыі ў Рэзэкнэ Латвія як адзіная дзяржава нават магла б і не паўстаць. Самае цікавае, што ў цяперашняй Латвіі латгальскі рух разглядаецца як прарасійскі і сепаратысцкі, з улікам таго, што большасць насельніцтва рэгіёну рускамоўныя. Варта, нарэшце, дадаць, што ў выніку кангрэсу ў Рэзэкнэ цяперашні Даўгаўпілс, які тады называўся Дзвінск, і яго наваколлі сталі канчаткова ўспрымацца як латышскі, а не беларускі край.

**Паводле латвійскай прэсы**



Фота www.islam.ru

**Цяперашні «Талібан» — гэта не адна арганізацыя, а кангламерат структураў, частка якіх супрацоўнічае з Масквой**

# На парозе новай афганскай

Алег НОВІКАЎ

**Напачатку месяца афганскі радыкальны ісламісцкі рух «Талібан» абвясціў маштабны выступ супраць афіцыйнага ўраду ў Кабуле. Гледзячы па ўсім, падзеі вядуць да чарговай афганскай вайны.**

Талібы, як піша прэса, збіраюцца не толькі ўтрымаць ужо захопленыя тэрыторыі, але і далучыць новыя. На захопленых землях, паводле апублікаванай праграмы «Талібану», плануюць запусціць будаўніцтва грамадскіх інстытутаў і адміністрацыі. Іншымі словамі, стварыць сваю дзяржаву.

Такая дзяржава ўжо існавала на пачатку XXI стагоддзя. Тады ў Афганістане дзейнічалі нормы шарыяту, пад забаронай знаходзіліся тэлебачанне, музыка, выяўленчае мастацтва, алкаголь, кампутары, інтэрнэт, шахматы і нават белы абутак (белы — колер сцяга талібаў). Мужчын абавязалі насіць бароды пэўнай даўжыні. Жанчынам не дазвалялі працаваць. Для дзяўчат быў значна абмежаваны доступ да адукацыі (у 2001 годзе дзяўчаты складалі толькі 1 працэнт тых, хто наведваў школу).

І, падаецца, талібы (дарэчы, гэтае слова перакладаецца з арабскай як «студэнты») слоў на вецер не кідаюць. Як паведамляе амерыканская прэса, 6 мая «Талібан» наблізіўся да гораду Кундуз — стратэгічна важнага пункта. Пра напружанасць на фронце сведчыць гатоўнасць афганскіх уладаў пагадзіцца на супрацоўніцтва з легендарным палявым камандзірам Гульбедынам Хекмаціярам. Ён у свой час паспеў паваяваць з усімі, кім можна, — ад Саветаў ад амерыканцаў. У 1980-я гады ў разгар вайны з савецкай інтэрвенцыяй у Рэйгана выклікала шок заява Хекмаціяра пра нежаданне атрымліваць ад янкі фінансавую дапамогу. Даваліся даваць яму зброю праз пасярэднікаў. Нягледзячы на такі супярэчлівы бэкграўнд, на мінулым тыдні славуты маджахед завітаў у Кабул для арганізацыі агульнага фронту супраць талібаў.

Тое, што афганскі ўрад, за якім стаіць Захад, гатовы на супрацоўніцтва з Хекмаціярам — відавочная прыкмета слабасці кабульскага рэжыму і яго заходніх патронаў. Прыкладна ў сярэдзіне 1990-х праз артылерыйскія абстрэлы афганскай сталіцы Хекмаціяр фігураваў у дакументах ААН як вайсковы злачынца.

Навіна пра актывізацыю талібаў выклікала занепакоенасць, перш за ўсё, у суседніх з Афганістанам краінах Цэнтральнай Азіі. Да мяжы ўжо пацягнуліся першыя калоны ўцекачоў. Як сведчыць досвед, абвастрэнне ў Афганістане заўжды было прапарцыйна росту палітычнай напружанасці ў рэгіёне. Нездарма таджыкскае кіраўніцтва ўжо турбуецца, не ведаючы, як не дапусціць прарыву талібаў на бераг Пянджу (памежнай ракі паміж Таджыкістанам і Афганістанам).

Галоўная надзея ў тым жа Душанбэ, думаецца, усё ж на Вашынгтон. Наступ баевікоў «Талібану» — гэта дэманстратыўны здзек з ЗША, кіраўніцтва якіх яшчэ ў 2001-м абяцала амерыканцам знішчыць талібаў. У тым жа 2001-м амерыканцам і іх саюзнікам удалося дапамагчы антыталібскай групоўкі «Паўночны альянс» адцясніць талібаў з большай часткі тэрыторыі краіны, аднак пасля тэмп быў згублены. Галоўная прычына — праблемы будаўніцтва афганскай дэмакратыі. Праз забабоны мясцовай палітычнай культуры дэмакратыя забуксавала.

Не дзіўна, што прыкладна пару гадоў таму «Талібан» крок за крокам пачаў вяртаць сабе кавалкі тэрыторыі Афганістана. Ужо ў красавіку, напярэдадні наступу талібаў, афіцыйныя ўлады трымалі пад кантролем Кабул і некалькі буйных гарадоў, прычым, у асноўным дзякуючы прысутным там жа амерыканскім базам. У руках талібаў знаходзіцца каля 70 працэнтаў тэрыторыі краіны.

Як канкрэтна плануюць у Вашынгтоне адказаць на выклік талібаў? Ужо вядома, што за акіянам плануецца павялічыць колькасць амерыканскага кантынгенту ў краіне, а таксама павысіць узровень яго фінансавання. Непасрэдна план прадугледжвае павелічэнне колькасці вайскоўцаў ЗША ў Афганістане з 8,4 тысячы да прыкладна 12 тысяч. Акрамя таго, у краіну будуць накіраваныя дадатковыя войскі краін NATO. Таксама стратэгія прадугледжвае павелічэнне фінансавання на навучанне афганскіх урадавых войскаў.

Чытаючы рэляцыі з Белага дому, нельга не згадаць, што Трамп, будучы кандыдатам, ахвотна крытыкаваў канкурэнта Хілары Клінтан за афганскую авантуру, у выніку якой былі забітыя больш за тысячу амерыканцаў. Цяпер Трамп вымушаны амаль пад капірку рабіць тое, што рабіла адміністрацыя Абамы, — з усімі рызыкамі.

У гэтым плане Белы дом, падаецца, асцярожна шукае перастрахоўкі. Невыпадкова там дапускаюць, што задачай новай афганскай стратэгіі ЗША можа быць не татальная перамога. Пішуць, што ЗША будуць шукаць кампрамісу з талібамі. Перш за ўсё таму, што талібы — унутрыпалітычная сіла, якая не мае геапалітычных амбіцый — у адрозненне ад групоўкі «Ісламская дзяржава».

Аднак ці знойдзе Трап кампраміс з талібамі — вялікае пытанне. Праблема ў тым, што цяперашні «Талібан» — гэта не адна арганізацыя, а кангламерат структураў, частка якіх супрацоўнічае з Масквой. Таму нельга выключаць, што Расія будзе намагацца зацягнуць ЗША ў які-небудзь канфлікт у Афганістане, каб паслабіць актыўнасць Вашынгтона ў іншых гарачых кропках. Адным словам, падаецца, новая афганская вайна вось-вось пачнецца.

# Макрон думае пра СНД

Алег НОВІКАЎ

**У праграме Эмануэля Макрона нашаму рэгіёну прысвечаны літаральна два-тры сказы. Нягледзячы на гэта, прэса краін СНД актыўна спекулюе на тэму, чаго чакаць ад новай французскай адміністрацыі.**


Фота www.tatler.ru

Не так даўно ў сеціве з'явіўся анекдот: «У Расіі так моцна памятаюць пра ахвяр фашыстаў, што напярэдадні 9 мая ўсенародна перажываюць за правага радыкала Марын Ле Пэн». Гэты жарт — добрая ілюстрацыя таго, наколькі моцна расійскае грамадства сімпатызавала кандыдату ад «Нацыянальнага фронту». Аднак навіну пра правал Ле Пэн (і, адпаведна, перамогу Макрона) значна больш занепакоена сустрэлі не ў Маскве, а ў Баку.

На беразе Каспія вельмі заклапочаныя шчыльнымі кантактамі новага французскага гаранта з армянскай дыяспарай, якой падчас выбарчай кампаніі той шмат чаго наабяцаў: уключаючы нават вырашэнне Карабахскага пытання. «Ці азначае гэта, што Парыж збіраецца афіцыйна прызнаць Нагорны Карабах?» — пытаецца частка азербайджанскай прэсы.

Другая частка спадзяецца, што прыход Макрона не паўплывае на статус-кво. «У Францыі па вызначэнні няма і не было не праармянскіх палітычных дзеячаў, занадта моцная роля армянскай дыяспары ў гэтай краіне. Абранне Макрона, несістэмнага дзяржаўнага дзеяча, не гатовага да рэзкіх крокаў, азначае, што ў Азербайджана ёсць выразны і гатовы да дыскусій суразмоўца», — супакойвае аўдыторыю адно з азербайджанскіх выданняў.

У Ерэване, сапраўды, гучна святкуюць перамогу Макрона, хаця, дарэчы, Ле Пэн 24 красавіка таксама выказвала спачуванне з нагоды гадавіны генацыду армян. Але большасць пагаджаецца, што Парыж без падтрымкі Захаду наўрад ці рызыкне аднабакова ўлазіць у Карабах. А вось сцэнар, калі Арменія будзе стратэгічным саюзнікам Францыі ў рэгіёне Паўднёвага Каўказу, лічыцца цалкам рэалістычным.

Што тычыцца Расіі, то ў СМІ гэтай краіны дамінуе думка, што прэзідэнцтва Макрона ў постсавецкіх краінах будзе адчувацца вельмі слаба. Па-першае, Макрону патрэбны пэўны час, каб стварыць каманду і ўвогуле разабрацца з праграмай, якая яшчэ мае эклектычны характар. Пакуль усё выглядае так, што працаваць яму давядзецца ў тандэме з рэспубліканцамі — фаварытамі хуткіх выбараў у парламент, у якім большасць і прызначае ўрад.

**Пытанні знешняй палітыкі — не ў топе французскай павесткі. Хутчэй за ўсё, Макрон, за якім стаіць банкаўскі капітал, перш за ўсё зоймецца рэформамі на рынку працы. Папярэдняя адміністрацыя знешнепалітычныя ініцыятывы ў ЕС аддала Берліну**

Па-другое, пытанні знешняй палітыкі — не ў топе французскай павесткі. Хутчэй за ўсё, новы гарант V рэспублікі, за якім стаіць буйны банкаўскі капітал, перш за ўсё зоймецца рэформамі на рынку працы. Нарэшце, Макрон прыйшоў з лагера сацыялістаў, а папярэдняя адміністрацыя Аланда на ўсходнім накірунку знешняй палітыкі ЕС аддала ініцыятыву Берліну.

Але афіцыйны Крэмль, падаецца, будзе намагацца адцягнуць увагу Парыжа ад зоны СНД у бок канфлікту на Блізкім Усходзе. Нездарма ў сваім віншаванні на адрас Макрона Пуцін асобна нагадаў пра нарастанне пагрозы тэрарызму.

Калі казаць пра пазіцыю антыпуцінскай апазіцыі, то тут ёсць спадзяванні, што Макрон не забудзецца пра заангажаванасць Масквы ў выбарчую кампанію Ле Пэн і пра нядаўні скандал з узломам электроннай пошты яго выбарчага штабу. Усплыла інфармацыя, што сярод хакераў быў нехта Георгій Рошка — супрацоўнік расійскай кампаніі, якая вырабляе праграмнае забеспячэнне ў тым ліку для ФСБ.

А вось кіеўскі палітыкум, наадварот, захоплены «макронаманіяй». Эйфарыя цалкам лагічная, калі ўзгадаць, што альтэрнатывай новаму кіраўніку Францыі на выбарах выступала прамаскоўская Марын Ле Пэн. Лічыцца, што Францыя пры новым прэзідэнце працягне актыўна працаваць у фармаце Нармандскай чацвёркі. Нарэшце, перамога Макрона як мінімум робіць неактуальным пытанне крызісу ўсяго праекту ЕС — менавіта на тэме еўрапейскай перспектывы для Украіны грунтуецца цяперашняя ўкраінская дзяржаўная дактрына.

Што тычыцца малдаўскай прэсы, то ў перамозе Макрона бачаць добры знак працягу супрацоўніцтва Парыжа і Берліна. Гэта вось, маўляў, мае стратэгічную ролю для захавання моцнага ЕС і, як следства, добрыя перадумовы для больш актыўнай ролі Еўропы ў краінах, якія падпісалі з ёй Пагадненне аб асацыяцыі (да якіх адносіцца таксама і Малдова). Малдаўская прэса таксама спадзяецца на рэактывацыю праграмы «Усходняе партнёрства», якая буксуе пасля леташняга рэферэндуму ў Вялікабрытаніі.

Напэўна, найбольш незвычайнае рэха на навіны з Францыі — у Грузіі. Тут святкуюць перамогу Макрона, спадзеючыся, што той працягне вайсковае супрацоўніцтва з Тбілісі ў... Цэнтральнай Афрыцы. Аказваецца, у пясках Сахары кантынгент грузінскіх жаўнераў дапамагае французскім калегам змагацца з ісламістамі. Праграма мае стратэгічнае значэнне для падтрымкі баяздольнасці грузінскай арміі.

Наўрад ці сёння можна казаць, хто мае рацыю ў нефармальных дэбатах наконт таго, як будзе паводзіць сябе Парыж падчас прэзідэнцкай кадэнцыі Макрона. Магчыма, нейкі адказ мы атрымаем ужо 25 мая, калі ў Брусэлі адбудзецца саміт NATO. У межах мерапрыемства Эмануэлю Макрону так ці інакш давядзецца публічна агучыць свае знешнепалітычныя погляды, у тым ліку і на праблемы нашага рэгіёну.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Даніэль Гюнтэр



Партыя 43-гадовага лідара секцыі нямецкай партыі Хрысціянскі дэмакратычны саюз (CDU) у зямлі Шлезвіг-Гальштэйн выйграла выбары ў рэгіянальны парламент, атрымаўшы 33 працэнты.

Спіс нямецкай Сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD), галоўных канкурэнтаў кансерватараў, атрымаў толькі 29 працэнтаў. Такія вынікі можна лічыць невялікай сенсацыяй: Даніэль Гюнтэр займае пасаду партыйнага правадыра толькі з мінулага лістапада.

Яшчэ больш цікавы эфект уплыву выбараў у Шлезвіг-Гальштэйне на агульнанацыянальную палітыку. Нагадаем, што гэтыя выбары — ужо другія запар, прайграныя эсдэкамі на рэгіянальным узроўні. У сакавіку SPD саступіла на выбарах у Саары. З улікам тэндэнцыі ўзнікла версія, што ажыятаж вакол асобы новага лідара SPD Марціна Шульца, які раней прыносіў эсдэкам дывідэнды, больш не працуе. Пасля згаданых правалаў шанцы «ружовых» выйграць федэральныя выбары ўвосень выглядаюць больш чым ілюзорна.

Праўда, ад катэгарычных заяваў на гэты конт лепш устрымацца як мінімум да 14 мая, калі пройдуць выбары ў ландтаг буйнай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Выбары ў мясцовы парламент — апошняя рэпетыцыя для ўсіх партый перад непасрэдным стартам кампаніі ў Бундэстаг.

### Роберт Бедрань



Мэр польскага горада Слупск, першы ў гісторыі Польшчы бургамістр, які публічна адносіць сябе да прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў, атрымаў нечаканую падтрымку. Раптам высветлілася, што папулярнасць мэра-гея выходзіць за межы невялікага Слупску.

Калі верыць апытанню газеты «Fakt», у выпадку балаціроўкі ў прэзідэнты ў 2020 годзе, Роберт Бедрань можа атрымаць у першым туры 26 працэнтаў галасоў. І гэтага яму можа цалкам хапіць для выхаду ў другі тур, дзе, праўда, паводле вынікаў апытання, ён прайграе ўсім праціўнікам. Акрамя таго, Бедрань — адзіны з фаварытаў кампаніі, які не мае нацыянальнай партыйнай структуры. Яе наяўнасць яшчэ больш узмацніла б рэйтынгі мэра-гея. У сувязі з гэтым шэраг вядомых польскіх палітолагаў ужо заклікалі Бедроня тэрмінова заняцца партыйным будаўніцтвам.

Канстатацыя інтарэсу грамадства да Бедроня падарвала ў апазіцыйных колах аксіёму пра тое, што галоўным праціўнікам Анджэя Дуды (цяперашні прэзідэнт-кансерватар) на выбарах 2020-га абавязкова павінен выступаць ліберал-аксакал Дональд Туск. Шэраг спецыялістаў лічаць, што малады Бедрань больш сімвалізуе надзею на перамены. Сапраўды, яго стыль падобны на стыль таго ж Макрона — цяперашняга куміра ліберальнай Еўропы.

### Сяргей Сабянін



Мэр Масквы быў ініцыятарам вельмі амбіцыйнага плану зносу ўсіх «хрушчовак», жыхароў якіх планавалася перасяліць у новыя, больш камфартабельныя дамы. Але нечакана для ўсіх у сталіцы Расіі паўстаў шырокі грамадскі рух жыхароў тых самых «хрушчовак». На мінулым тыдні яны фактычна сарвалі ўхваленне рэформы Сабяніна падчас грамадскіх слуханняў на месцах.

Аказалася, для шмат каго жыць у не вельмі камфартабельных дамах, пабудаваных у 1950–1960-я гады, больш прывабна, чым у новых. Асноўны аргумент — кошт кватэры ў старым доме ў цэнтры ўсё роўна вышэй, чым кошт кватэры ў новым панельным доме на перыферыі. Больш таго, усплылі не вядомыя раней нюансы рэформы. Перасяляць людзей (першую партыю збіраліся перасяліць ужо ўвосень) планавалі ў будынкі, на якія няма попыту. То бок, за кошт мэрыі збіраліся вырашыць праблемы некаторых будаўнічых кампаній, што нагадвае карупцыйную схему.

Так ці інакш, упершыню з часоў перабудовы, дзякуючы Сабяніну, мы назіраем сапраўдны масавы грамадскі рух масквічоў. А вось што з гэтага атрымаецца, цяжка сказаць. Мець падчас будучых прэзідэнцкіх выбараў 2018-га ў сталіцы прыкладна мільён незадаволеных (менавіта столькі мяркуецца перасяліць паводле плану Сабяніна) — для Пуціна палітычна рызыкоўна. Хутчэй за ўсё, пакуль навацыю скасуюць, аднак сама ідэя нікуды не дзенецца. Паводле падлікаў спецыялістаў, забудова ўчасткаў, дзе сёння знаходзяцца «хрушчоўкі», можа даць прыбытак у 15 мільярдаў долараў.

# «Вогненная вёска» Алеся Адамовіча

Дзіяна ПІНЧУК

**Гэты населены пункт нагадвае нявесту, якой усім раёнам збіралі добры пасаг на працягу многіх гадоў, але па нейкіх прычынах так і не выдалі замуж. Гады ідуць, сабранае псуецца, гіне і гніе. Але ўсе ж такі Глуша — патэнцыйна зорнае турыстычнае мястэчка — чакае і спадзяецца.**



Спецыялісты мяркуюць, што будынак мае 100% знос

## Музей, якога няма

Па шляху ў Глушу на трасе «Бабруйск–Слуцк» стаіць указальнік «Музей РАМЁСЛАЎ. 50 метраў». Збочваем у надзеі знайсці там усё ж такі музей рамёстваў.

У склад музея «Глушанскі хутарок» уваходзіць няшмат аб'ектаў, але тыя нямногія смела можна назваць «стойкімі сведкамі глушанскай гісторыі». Паўнавартасна працуюць толькі цэнтр рамёстваў і народны дзіцячы калектыў «Глечыкі». Толькі гэтая дзейнасць і дапамагае ўтрымліваць хаця б некаторыя будынкі ў прыстойным выглядзе, што ўсё ж такі дае нейкую надзею на аднаўленне музея.

Кіраўнік калектыву Аляксандр Арлоў з задавальненнем расказвае пра кожны закуточак глушанскіх экспанатаў. Арлоў тут і за настаўніка, і за кіраўніка, і за заўгаса, і за экскурсавода. Ён, нават не ведаючы, што мы збіраем матэрыял для артыкула, падараваў нам шмат свайго часу. Яго не цікавілі сацыяльныя статусы і імёны, яму хапіла толькі аднаго: што мы — людзі, зацікаўленыя гісторыяй сваёй краіны.

«Цяпер у музейны комплекс уваходзяць хата бедняка, ветраны млын, царква і хата багача, якую цяпер займае ганчарня. Раней яшчэ была лазня і хата лесніка, але яны з цягам часу разбурыліся», — уздыхае Аляксандр Васільевіч.

На сайце Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта таксама размяшчаюцца звесткі пра музей рамёстваў, але пад неаптымістычнай назвай «Музей, которого нет», дзе распавядаецца кароткая гісторыя пра скарачэнне фінансавання на яго падтрымку. Пасля такой інфармацыі ад «вярхоў» нейкай надзеі, шчыра кажучы, застаецца мала.

## «Сваімі сіламі»

Млын, які быў пабудаваны ў канцы XIX стагоддзя, прывезлі з расійскага Іванава. Увесь механізм захаваўся ў сваім першапачатковым выглядзе. Нават на некаторых бэльках засталіся выпаленыя надпісы гадоў яго існавання. Старшыня Глушанскага сельсавета Марыя Сушчэнка распавядае пра млын, як пра жывую істоту: «Шкада, канечне, што ўраган «Даніэла» адарваў яму лопасці».

Аляксандр Арлоў кажа, што на розныя святы прымацоўваюць да яго маленькія дэкаратыўныя лопасці: «А то стаіць будынак — быццам бы млын, а быццам і не. Вось так і падтрымліваем яго стан — сваімі сіламі...»

Хата бедняка XIX стагоддзя таксама знаходзіцца ў паўразбураным стане. «Калі б адрэстаўраваць гэтыя хаты, то ў іх нават і ночыць можна было б! Расійцы б прыязджалі — яны любяць такія ўмовы... Канешне, дах павінны па асобай тэхналогіі выкладаць чаротам, але мы змаглі пакрыць толькі саломай», — і, заўважыўшы тэндэнцыю, Аляксандр Васільевіч сумна ўсміхаючыся дадае: «Ну вось, неяк сваімі сіламі».

Шкада, што пры думках аб патэнцыйных наведвальніках згадваецца адразу не наш «вышыванкаваны» народ. А гэта ж наглядная гісторыя нашага жыцця ва ўсіх яе праявах!

Тэма аднаўлення музея ў пасёлку Глуша з'яўляецца актуальнай ужо на працягу трох дзясяткаў гадоў. Але, пабыўшы там аднойчы, гэта здаецца адным вялікім непаразуменнем. Лепшага адпачынку для беларуса, які шукае гармонію з сабой, з навакольным асяроддзем у сваёй краіне проста прыдумаць нельга. Але гэта той рэдкі выпадак, калі «час не пакажа».

## Яшчэ адзін музей

Але не толькі тэма «закінутага музея пад адкрытым небам» з'яўляецца для Глушы балючай. Які ўжо год не рухаецца і пытанне пра будаўніцтва новага музея — музея сусветна знакамітага беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча.

Алеся Адамовіча дзякавалі з трыбуны на цырымоніі Нобелеўскай прэміі, яго імя ў 2015 годзе пранеслася па ўсім Стакгольме, па ўсім свеце, яго імя ўваходзіць у сусветныя спісы лепшых пісьменнікаў. А ў Беларусі перад тым, як распавесці пра праблему музея, трэба спачатку задаць пытанне: «Ты ж ведаеш, хто такі Алесь Адамовіч?» Яго творчасць нават не ўключана ў школьную праграму.




Магіла Алеся Адамовіча

Дарэчы ў 2017-м, 3 верасня, спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Алеся Адамовіча. Але гэта толькі па пашпартных дадзеных. Справа ў тым, што ў ваенныя гады яго маці вымушана была выправіць дату нараджэння на адзін год і адзін месяц, зрабіўшы Аляксандра маладзейшым, каб яго не адправілі ў Германію. Таму і святкуюць дзве даты, бо невядома, як бы склаўся яго лёс, каб не спрытнасць яго маці.

Размясціць музей плануецца ў сценах былой аптэкі, будынак якой у гады вайны быў «цэнтрам падпольнага руху, актыўным удзельнікам якога быў Адамовіч», — распавядаюць мясцовыя жыхары.

Пісьменнік падрабязна апісаў гэта ў аўтабіяграфічным рамане «Вайна пад стрэхамі», па матывах якога быў зняты фільм, а Уладзімірам Высоцкім напісаны ваенныя балады — «Земля» («Кто сказал, всё сгорело дотла...»), «Сыновья уходят в бой» і іншыя.

«З дапамогай музея плануецца расказаць не толькі пра пісьменніка, але, у першую чаргу, пра людзей, якія з'яўляліся прататыпам яго кніг, пра жыхароў пасёлка ў ваенныя гады. Для Адамовіча заўсёды самым каштоўным былі людзі, і таму дачка пісьменніка Наталля, актыўна займаючыся пытаннем будаўніцтва музея, хоча, каб у гэтым месцы была старонка вялікіх людзей Глушы. Але з кожным годам зрабіць гэта становіцца ўсё цяжэй», — кажа Марыя Сушчэнка.

## Пачатак без працягу

Яшчэ ў 2016 годзе ў Магілёве адбыўся круглы стол на тэму «Музей Алеся Адамовіча: супрацоўніцтва грамадскасці і ўлады», ініцыятарам якога стала журналістка газеты «Звязда» Нэлі Зігуля. Яго ўдзельнікамі былі прадстаўнікі ўлады, Таварыства беларускай мовы, мясцовыя гісторыкі, журналісты, прадстаўнікі пісьменніцкіх арганізацый. Удзельнікі вылучылі шэраг прапаноў, якія павінны паспрыяць актывізацыі збору сродкаў на стварэнне музея.

Глуша не ведае такую модную катэгорыю, як «краўдфандынг». Таму грошы спрабуюць знайсці традыцыйным чынам. Пры Бабруйскім райвыканкаме ў 2016 годзе быў адкрыты разліковы рахунак на збор сродкаў для выдатку праектна-каштарыснай дакументацыі музея і рэканструкцыі будынка, але за год яго існавання на ім адбыліся малаважныя зрухі. Выправіла сітуацыю нобелеўская лаўрэатка па літаратуры Святлана Алексіевіч, якая пералічыла пяць тысяч долараў на гэты рахунак. Але трэба падкрэсліць, што пералічаных грошай хопіць толькі на распрацоўку адпаведнай дакументацыі, асноўная праца — наперадзе.

Заўважым, што менавіта Алесь Адамовіч заснаваў у Беларусі жанр, які адначасова спалучае і літаратуру, і журналістыку, у якім у далейшым і працавала Алексіевіч. Святлана Аляксандраўна часцяком называе Адамовіча сваім настаўнікам, а яе, у сваю чаргу, завуць яго паслядоўніцай.

«Ідэя стварэння музея нарадзілася яшчэ падчас пахавання пісьменніка ў 1994 годзе. Але аб пачатку актыўных дзеянняў па захаванні памяці пісьменніка можна казаць толькі пра 1996 год, калі адну з вуліц пасёлка Глуша перайменавалі ў імя Алеся Адамовіча», — распавяла дачка Адамовіча Наталля Аляксандраўна.

Дарэчы, у Беларусі існуюць толькі дзве вуліцы імя Адамовіча. Адна — у пасёлку Калодзішчы Мінскага раёна, дзе ініцыятарам выступіў кааператыў індывідуальных забудоўшчыкаў, то бок самі жыхары. Другая — у Глушы. Прычым, перайменаваннем глушанскай вуліцы ў 1996 годзе займаўся беларускі ПЭН-цэнтр, які ўзначальваў Васіль Быкаў, і Саюз пісьменнікаў на чале з Уладзімірам Някляевым.

«Канешне, правільным і сімвалічным было б назваць яго імем цэнтральную вуліцу пасёлка, дзе знаходзіцца тая аптэка, пасляваенны дом роду Адамовічаў і паварот да могілак, дзе пахаваны ўвесь наш род», — разважае Наталля Аляксандраўна. Але ўлада была ў гэтым пытанні катэгарычная, і не дазволіла перайменаваць «Кастрычніцкую». Таму імем Адамовіча названая бакавая вулачка, па якой некалі Алесь бегаў у школу.

## Ці вернецца Адамовіч?

Але вось што цікава: юрыдычнае рашэнне пра стварэнне музея Алеся Адамовіча ў Глушы яшчэ нават не прынятае! І нават ужо адкрыты рахунак не гарантуе пачатку стварэння.

Яскравым доказам з'яўляецца расказаны Наталляй Аляксандраўнай дзіўны выпадак: «На «круглым стале» ў Магілёве журналістка Нэлі Зігуля перадала прысутным словы Алексіевіч, якая абяцала падтрымаць будаўніцтва музея шляхам пералічэння грошай на адпаведны рахунак у бліжэйшы час. Святлана Аляксандраўна стрымала слова, і ў канцы лістапада грошы ўжо былі пералічаныя. Але пра факт паступлення сродкаў Бабруйскі райвыканкам нікому не паведаміў, пакуль у канцы студзеня сама Зігуля не пачала дазнавацца пра гэта».

«Ведаеце, проста цяпер як ніколі трэба дзейнічаць вельмі аператыўна. Дом не абаграваўся з 1996 года. Добра, што ў свой час будаўнікі якасна і сумленна ўзвялі будынак аптэкі. За гэтыя два месяцы можна было ўжо шмат чаго зрабіць, напрыклад, правесці тэндар», — непакоіцца дачка пісьменніка.

Алесь Адамовіч у аповесці «Клуб» піша пра Глушу: «Не стоило все-таки возвращаться в поселок. Казалось, что вернувшись, что-то верну...»

А можа, калі мы яго вернем у пасёлак з дапамогай узвядзення храма душы Алеся Адамовіча, насамрэч, ён верне нам нешта калісьці страчанае для ўсяго беларускага народа?

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук*



# Год культуры. Якім ён быў

**Шмат хто спадзяваўся, што Год культуры пройдзе пад знакам нацыянальнай, а не культуры ўвогуле. Але што ў выніку?**

Рускамоўная эстрада запаланіла не толькі сцэну, але і афіцыйныя СМІ. За высокія ганарары айчынным артыстам дапамагаюць прапагандаваць рускую эстраду іх калегі з Расіі. Не здаралася такога, каб хтосьці з гэтых нязменных гастралёраў адважыўся хоць адну песню выканаць на тытульнай мове нашай сёння так сумніўна, як ніколі, суверэннай краіны. Мо і ўлады яе не ўхвалілі б такога гераічнага інтэрнацыяналістычнага вычыну, каб гэтым самым не падарваць пазіцыі адзіна рэальнай дзяржаўнай у нас рускай мовы.

Былі спадзяванні, што ў Год культуры ўзмоцніць беларускі пачатак хвалёны «Славянскі базар у Віцебску». Нават сярэднестатыстычны жыхар нашай краіны разумее, што гэтае штогадовае мерапрыемства сістэматычна абыходзіць бокам беларускі нацыянальны інтарэс і лье ваду толькі на кола дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Вядучым яго, відаць, наказана не размаўляць па-беларуску, што яны ахвотна і робяць. Хутчэй узімку пачуеш голас зязюлі, чым беларускае слова ад вядучых «базару». Год культуры выключэннем не стаў — на «Славянскім базары ў Віцебску» яго ўдзельнікі ад нашай краіны больш зрабілі на карысць рускай, чым айчыннай беларускай культуры.

З больш чым двух дзясяткаў драматычных тэатраў краіны і пяці не набярэш, дзе б гучала беларуская мова, таму іх ніяк нельга аднесці да набыткаў беларускага нацыянальнага сцэнічнага мастацтва, хаця абсалютная бальшыня артыстаў і выдатна спраўляецца са сваімі прафесійнымі абавязкамі, карыстаецца вялікай павагай у наведвальнікаў тэатраў. Ніякіх крокаў змяніць такую практыку ў дзейнасці драматычных тэатраў не было зроблена ў Год культуры.

Бедна прадстаўлена беларуская мова ў оперным тэатры Беларусі. У ім спяваюць пераважна па-руску ці на заходнееўрапейскіх мовах, тлумачачы гэта неабходнасцю выкарыстання мовы арыгінала замежных опер. Але ў даваеннай БССР заходнееўрапейская оперная класіка ставілася на беларускай мове. Упершыню нашы аматары опернага мастацтва пачулі партыю Кармэн з аднайменнай оперы французскага кампазітара Жоржа Бізэ менавіта на сваёй роднай мове. І выканала гэтую партыю наша славутая спявачка Ларыса Александроўская, што не толькі не перашкодзіла, а, наадварот, паспрыяла ёй стаць у 1940 годзе першай у БССР Народнай артысткай СССР.

Рэкорд жа па ігнараванні беларускай мовы ў сцэнічнай дзейнасці не першы год належыць калектыву Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Гэтага «ганаровага» для сябе месца ён не саступіў нікому і ў Год культуры.

Як і трэба было чакаць, у Год культуры праведзена нямала звязаных з культурай мерапрыемстваў. Іх пры магчымасці стараўся як мага больш наведваць і я. Акрамя атрымання асалоды ад мастацтва, мяне заўсёды цікавіла сфера ўжывання беларускай мовы. У сувязі з гэтым мяне вельмі ўзрадавала наведванне ўлетку канцэрта ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі. У ролі дырыжора выступаў Аляксей Фралоў. І з залай, і з аркестрам ён размаўляў толькі па-беларуску, прычым на надзвычай чыстай, прыгожай літаратурнай мове.

Беларускае слова ўдалося пачуць мне ад артыстаў у Мінску ў час канцэртаў «Класіка ля ратушы» на плошчы Свабоды. Было гэта, калі выступаў аркестр амерыканскіх вайсковых паветраных сіл у Еўропе. Вядучы праграмы выйшаў на сцэну ды звярнуўся да гледачоў спачатку па-англійску, а затым па-беларуску, прычым, не заглядваючы ў паперку.

Спявачка з Румыніі, выступаючы на сцэне «Класіка ля ратушы», звярнулася да наведвальнікаў канцэрта са словам: «Прывітанне». Пачулі ад яе і такія словы: «Як справы, беларусы!» На досыць бурныя апладысменты найчасцей адказвала: «Дзякуй!» Вучыцеся, шаноўныя беларускія спевакі і музыканты, асабліва ўдзельнікі «Славянскага базару ў Віцебску»!

***

Да ўдзелу ў правядзенні Года культуры з усёй сур'ёзнасцю павінна было б паставіцца кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі. Як-ніяк, але ўжо не першы год яго сябры больш працуюць на карысць рускай, чым беларускай нацыянальнай літаратуры, што не можа не выклікаць трывогі ў кожнага з неразмытай этнічнай свядомасцю беларуса.

Многія спадзяваліся, што пра яе нацыятворную ролю абавязкова будзе весціся самая сур'ёзная размова падчас правядзення трэцяга з'езду СПБ: адбываўся ж ён у Год культуры! У змешчаных у перыядычным друку матэрыялах з гэтага форуму я не знайшоў нічога такога. Выходзіць, ніхто не палічыў патрэбным сказаць важкае слова пра катастрафічны стан мовы тытульнай краіны.

Сучасную беларускую мову можна смела, беспамылкова называць мовай каставаю, паколькі яна бытуе толькі сярод нязначнай колькасці людзей, пераважна прафесійна звязаных з яе выкарыстаннем. Усім зразумела, што такія людзі — гэта найперш пісьменнікі, журналісты, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры. У трывожныя савецкія часы менавіта гэтыя катэгорыі творчай інтэлігенцыі прабіваліся праз усялякія перашкоды да высокага кіраўніцтва ЦК КПБ, каб выказаць свой боль пра горкі лёс роднай мовы.

За апошнія больш як дваццаць гадоў нічога падобнага ў нас не назіралася. За гэты час не было аніводнага выпадку, каб якая-небудзь з найбольш вядомых уплывовых абдзяржаўленых пісьменнікаў асоба наведала ці звярнулася з лістом да паліткіраўніка краіны, каб паказаць, у якім становішчы знаходзіцца родная мова тытульнага народа, і абмеркаваць шляхі яе выратавання ад рэальнага вымірання. Ніхто з больш чым з 600 сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі на такое не адважваецца.

***

Афіцыйна абвешчаны Год культуры абавязваў найперш міністэрствы культуры і адукацыі больш сур'ёзна паклапаціцца пра становішча беларускай мовы. Не паклапаціліся. У ніводнай з духоўных сфераў краіны Год культуры нічым не адрозніваўся ад усіх астатніх гадоў пасля таго, як у нас усталявалася (не на радасць і шчасце беларускай мовы!) прэзідэнцкая сістэма кіравання краінай.

Каб культура Беларусі была культурай нацыянальна беларускай, ёй патрэбны адпаведны людскі матэрыял, які, акрамя сем'яў, рыхтуюць звёны народнай адукацыі, пачынаючы з дашкольных установаў і заканчваючы вышэйшай школай. Міністэрства адукацыі РБ ні кроку не зрабіла, каб хоць трохі палепшыць стан беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчым працэсе. Будучы рускамоўным, яно толькі спрыяе павелічэнню ў краіне носьбітаў рускай культуры.

У Год культуры нічым сябе не выявілі навуковыя калектывы, дзейнасць якіх звязаная з духоўнай сферай. Сцвярджаць такое даюць падставы нават праведзеныя імі тры навукова-практычныя канферэнцыі, у якіх і мне пашчасціла браць удзел. Кожны раз я прапаноўваў прысвечаны беларускай мове выступ у надзеі, што мне дадуць выступіць на пленарным пасяджэнні. Тэма ж архінадзённая! І ў дакладчыка хапае навуковай ступені і звання, аўтарытэту службовай пасады (доктар гістарычных навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі), каб прэтэндаваць быць пачутым на пленарных пасяджэннях. А часта ж на іх заслухоўваліся і такія даклады, якія не мелі аніякага дачынення да беларускай культуры і чыталіся не на беларускай мове. А на такога ж роду канферэнцыях дый яшчэ падчас пленарных пасяджэнняў яна павінна быць дамінантнай.

Але такога ганаровага заслужанага статусу не мела яна на Першым міжнародным навуковым кангрэсе беларускай культуры (5–6 мая; галоўныя арганізатары — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь), на V міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Культура Беларусі: рэаліі і сучаснасць» (27 верасня; арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Інстытут культуры Беларусі гэтага ж міністэрства), на VII Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Традыцыі і сучасны стан культуры і мастацтва» (24–25 лістапада; галоўны арганізатар — Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі).

Ужо не першы год стаіць пытанне: быць ці не быць культуры нашай краіны нацыянальна беларускай, а яе карэннаму насельніцтву — беларусамі, а не этнічным натоўпам. Таму няма аніякага сэнсу праводзіць ні рэспубліканскія, ні міжнародныя канферэнцыі па праблемах культуры, калі ў іх праграмах адсутнічае нацыянальны аспект, калі не плануецца весці гаворку аб шляхах выратавання беларускай культуры ад руйнавальнага ўздзеяння на яе русіфікацыі, аб захаванні этнакультурнай самабытнасці беларусаў, аб выкараненні з іх душаў заскарузлага нацыянальнага нігілізму. Усе гэтыя лёсавызначальныя пытанні акурат па-джэнтльменску і абыдзены на разглядаемых мною форумах, на правядзенне якіх выдаткавана шмат фінансавых сродкаў і патрачана нямала часу. Вынік для нацыянальнай культуры Беларусі — нулявы.

***

Афіцыйна абвешчаны 2016 год Годам культуры не стаў такім для беларускай НАЦЫЯНАЛЬНАЙ культуры. Народ нашай краіны жыў больш набыткамі рускай, чым беларускай культуры, асабліва звязанай з выкарыстаннем мовы. Сёння мы, у тым ліку і занятыя ў сферы культуры, з-за страшэннай зрусіфікаванасці папросту не ў стане належным чынам правесці такое адказнае мерапрыемства. Да яго патрэбная грунтоўная агульнанацыянальная падрыхтоўка.

Давайце правядзем яе пры самым актыўным удзеле не толькі работнікаў культуры, але і дзяржаўных структур. І Годам культуры абвесцім 2018 год, калі будзем адзначаць 100-гадовы юбілей стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, улады якой з вялікім разуменнем ставіліся да ўсяго нацыянальнага. Апошнія ж дні гэтага юбілейнага года мяжуюць з другой важнай гістарычнай датай: стагоддзем абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай (БССР) з яе дзяржаўнай палітыкай беларусізацыі, якая так абудзіла беларускі народ да актыўнай нацыятворнай дзейнасці і прымусіла паверыць у сябе.

Году культуры ў 2018 годзе — быць, і быць Годам беларускай НАЦЫЯНАЛЬНАЙ культуры. Пры належнай падрыхтоўцы, умелым правядзенні ён можа стаць важным фактарам мабілізацыі ўсяго беларускага народа на пераадоленне небяспечнай для яго культурна-моўнай асіміляцыі, без утаймавання якой яму не захаваць сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, а разам з ёю і дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь.




# «Народны альбом» у «Шаблі»

**На адзін вечар хутар стане заходнебеларускім мястэчкам 1930-х гадоў.**

Пасля аншлагу ў Мінску культавы «Народны альбом» завітае на хутар «Шаблі» ў Валожынскі раён. Оўпен-эйр «Вольнае паветра» гэтым разам складаецца з дзвюх музычных частак!

15 ліпеня атмасферу «Вольнага паветра» будуць ствараць сучасныя драйвовыя беларускія калектывы і мюзікл «Народны альбом» з удзелам Лявона Вольскага, Змітра Вайцюшкевіча, Касі Камоцкай, Веранікі Кругловай. Будуць і сюрпрызы.

Фестываль прысвячаецца светлай памяці Ганны Вольскай.

— Наш традыцыйны фестываль новага этна «Вольнае паветра» пройдзе ў крыху іншым фармаце. У лютым мы гучна і прыгожа адзначылі вяртанне «Народнага альбома» ў Беларусь пасля 10 год маўчання. Чаму б не заспяваць любімыя песні на адкрытай пляцоўцы і яшчэ раз не адзначыць 20-годдзе музычнага спектакля? Гэты музычны праект — частка сучаснай беларускай культуры, які разам з тым распавядае нам пра мінулае жыццё беларусаў у цяжкія часы. Але мы не забыліся і на актуальныя музычныя калектывы, якія дададуць новае гучанне «Вольнаму паветру». Падрабязнасці з'явяцца неўзабаве, — распавядаюць арганізатары фестывалю.

«Вольнае паветра» пачнецца 15 ліпеня а 18-й гадзіне. Па традыцыі, на хутар «Шаблі» можна прыехаць у пятніцу ў намётавае мястэчка ды бавіць час на прыгорках Малога Запруддзя. Дзеці да 12 гадоў — бясплатна. Можна браць і сабак, аднак з ланцужком і напыснікам.

Паспець набыць квіткі па 30 рублёў яшчэ можна ў Тэатральнай касе на Калініна, 5. Электронныя квіткі даступныя ў любой кропцы Беларусі праз сайт ticketpro.by.

Тэлефон інфалініі: +375 17 395 05 65; +375 33 6555596

Самыя апошнія навіны пра падрыхтоўку да фестывалю будуць публікавацца на сайце shabli.by і ў сацыяльных сетках.

**Адказы на крыжаванку «Беларусь мая, хворая маці...» (НЧ, №15 ад 21 красавіка):**

**Па гарызанталі:** 2. Ворах. 6. Маці. 7. Робы. 8. Кветкі. 9. Дняпро. 12. Вецер. 13. Палоній. 14. Абраз. 17. Адбор. 19. Апала. 21. Лес. 22. Сем. 23. Галец. 24. Выток. 26. Права. 27. Прагрэс. 31. Палын. 34. Прывід. 35. Смерць. 36. Бяда. 37. Рала. 38. Рэтра.

**Па вертыкалі:** 1. Карта. 2. Віціна. 3. Рукаво. 4. Грудзі. 5. Абсяг. 10. Неба. 11. Мама. 15. Прыпяць. 16. Малітва. 18. Бусел. 20. Афсет. 23. Гора. 25. Крыж. 28. Роджар. 29. Графіт. 30. Экстра. 32. Сваяк. 33. Пекла.

# «Дык шануй, беларус, сваю мову»




**Па гарызанталі:** 3. «Малая падарожная ...». Назва выдання твораў Францыска Скарыны, якія былі надрукаваны ў Вільні ў 1522 годзе; выход іх у свет паклаў пачатак кнігадрукаванню ў нашай краіне. 8. «Усе справы і ўсе навукі, якімі багаты ..., немінуча мінуюць разам з уявай свету». Ф.Скарына. 9. Тое, што і лоб. 10. Назва на старабеларускай мове месяца лістапада. 13. Грашовая адзінка ВКЛ. 14. «Любіце і шануйце, як святыню, роднае ..., з якім вас літасцівы Бог на свет пусціў». Ф.Скарына. 15. Цыкл мастацкіх твораў аднаго жанру. 16. У поле — па хлеб, у ... — па дровы (прыказка). 17. «Мову маю, быццам дзіця з калыскі,\\ Як ... родную, прадчасна ў дол кладуць». З верша Л.Геніюш «Мова мая». 18. «Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны ..., і гэты ... — мова». Цытата А.Разанава, які пераклаў прадмовы Ф.Скарыны на сучасную беларускую мову. 19. «У прытчах затоена мудрасць, як ... у каштоўным камяні, як золата ў зямлі і ядро ў арэху». Ф.Скарына. 22. «Не ... для ўрада, а ўрад для народа». К.Каліноўскі. 23. ..., серпень; старабеларускія назвы жніўня. 25. Рабочы конь-цяжкавоз. 29. Старабеларуская назва кастрычніка. 31. Прыняцце на работу. 32. Зямля пад сядзібай, агародам. 33. «Дык шануй, ..., сваю мову —\\ Гэта скарб нам на вечныя годы». З верша А.Гаруна «Ты, мой брат, каго завуць беларусам».

**Па вертыкалі:** 1. Першая друкаваная беларускамоўная кніга Ф.Скарыны, выдадзеная ў Празе ў 1517 годзе ў першым у гісторыі беларускім выдавецтве. 2. З кнігай жыць — ... не тужыць (прыказка). 3. Напрамак якой-небудзь дзейнасці (пераноснае). 4. Асобай формы палка, якая служыць сімвалам улады. 5. Музычны смычковы інструмент. 6. «Падымаем вышэй, як штандар,\\ Багушэвіча слова жывое\\ І Купалавай спадчыны ...». З верша М.Маляўкі «Адраджэнне». 7. «Скарына, ... лекарскіх навук,\\ У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры». З верша М.Багдановіча «Безназдейнасць». 11. ..., марэць; назвы сакавіка, якія сустракаюцца ў творах Ф.Скарыны. 12. «... падымае пытанне і на пытанне шукае адказу». Ф.Скарына. 20. «Ніякае ... людзей не бывае даражэйшым за іх родную мову». Я.Колас. 21. Частка радыё- і тэлевізійнай устаноўкі. 24. Усё старадаўняе, што ўзнаўляе старое, мінулае. 26. Грамадская арганізацыя культурна-асветнага, спартыўнага характару. 27. Верагодная магчымасць ажыццяўлення чаго-небудзь. 28. «Збірайце добрыя думкі ў сэрцы сваім, як пчала ...». Е.Полацкая. 30. Лясны жаваранак.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Колб Аксана Мікалаеўна
Намеснік рэдактара Пульша Сяргей Пятровіч
Стыль-рэдактар Пяроўская Святлана Віктараўна

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №450

Падпісана да друку 12.05.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.